ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# НАПАГАТОВЕ

ШТОМЕСЯЧНАЯ ВАЕННА-АБАРОНЧАЯ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАЯ ЧАСОПІСЬ—ОРГАН АРГКАМІТЭТУ САЮЗУ САВЕЦКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ БССР



ПАД РЭДАКЦЫЯЙ
Л. АРАНШТАМА (адказны рэдактар),
АНДРЭЯ АЛЕКСАНДРОВІЧА,
Л. БЭНДЭ (намесьнік рэдактара),
Ф. ГОЛЬДМАНА,
К. КРАПІВЫ
і В. ШАПАВАЛАРА

№ 1

СТУДЗЕНЬ

1933

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВАЕННАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
МЕНСК—1933

# ЗЬМЕСТ



## З мінулага



## Крытыка і публіцыстыка



## Бібліяграфія



Уп. Галоўлітбелу № 57 Зак. 259—6000 экз. Гомель, „Палесдрук“

# СЛАВА ЖАЛЕЗНАЙ КАГОРЦЕ ЧАКІСТАЎ

Ў ДЗЕНЬ пятнаццатай гадавіны слаўнага існаваньня любімага дзіцяці пралетарскай дыктатуры—АДПУ—Рэвалюцыйны ваенны савет БВА пасылае сваё гарачае чырвонаармейскае прывітаньне жалезнай кагорце палкага бальшавіка—чэкіста Дзяржынскага, бязьлітасна паражаючага ворагаў рэвалюцыі і зорка ахоўваючага недатыкальнасьць савецкіх граніц.

СССР—адзіная ў сьвеце краіна, дзе на чале ўлады стаіць перамогшы пралетарыят. СССР—адзіная ў сьвеце дзяржава дыктатуры пралетарыяту. СССР, пад кіраўніцтвам ленінскай партыі, яе правадыра тав. Сталіна, намаганьнямі мільёнаў, перамагаючы і ламячы шалёныя супраціўленьні клясавага ворага, пераможна заканчвае першую пяцігодку і вялікасна стаіць на дарозе другой пяцігодкі—пяцігодкі пабудовы бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва.

Мы будуем сацыялізм, абкружаныя ворагамі, і таму так вялізна і ганаровa работа кожнага работніка АДПУ, кожнага пагранічніка.

„ВЧК“,—гаварыў Уладзімер Ільліч Ленін,—гэта тая ўстанова, якая была нашай зьнішчальнай зброяй супроць шматлікіх змоў, шматлікіх замахаў на савецкую ўладу“.

Меч пралетарскай дыктатуры тысячы разоў ўхоўваў Краіну саветаў ад злоснага памыканьня на яе ворагаў. Тысячы і сотні разоў ЧК-АДПУ даводзіла сваю бязьмерную адданасьць справе Леніна, справе сацыялізму і іменна таму ўся подласьць ворага, уся ганебнасьць яго правакацый была накіравана на тое, каб закідаць гразьзю бальшавікоў-чакістаў. „Няма такіх легенд, якіх-бы ня склалі пра ДПУ, няма такога паклёпу, які-б не распаўсюджвалі пра ДПУ. А што гэта азначае? Гэта азначае, што ДПУ правільна

ахоўвае інтарэсы рэвалюцыі“ (Сталін). Гэта ганаровая бальшавіцкая ацэнка работы АДПУ, дадзеная правадыром партыі, яшчэ раз падкрэсьлівае, што ў нашых радох няма званьня ганаровей за чакіста, няма работы больш цяжкай і ганаровей, чым работа чакіста.

Вышэй баявую пільнасьць! Больш дбайна ахоўваць савецкія межы. Слава жалезнай кагорце чакістаў, бар'еру рэспублікі саветаў, праз якіх ня пераскочыць ніводная контррэвалюцыя, не разьбіўшы сабе ушчэнт галаву.

Кам. войскам БВА—*Уварэвіч.*
Член РВС—*Араншатам.*

# ПЯТНАЦЦАЦЬ ГОД НА ВАРЦЕ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

У ПОЛЫМІ вялікіх баёў, у грохаце гармат, нарадзілася 15 год назад першая ў сьвеце дзяржава працоўных.

Адразу пасьля Кастрычніцкай перамогі ў 1917 г. партыі і савецкай уладзе прышлося арганізаваць узброеную абарону пралетарскай дыктатуры ад нападу ўнутранай і міжнароднай контррэвалюцыі.

Не дабітыя рэвалюцыяй актыўныя і кіруючыя кадры нізьвергнутых клясаў, пры вялізарным падтрыманьні і простым кіраўніцтве міжнароднай буржуазіі пачалі зьбіраць свае сілы. Частка з іх засталася на мясцох, частка ўцякла на Дон, Кубань, Украіну, Сібір і за межы. Сабатажам, тэрарам, змовамі, паўстаньнямі і простай атакай белых і імпэрыялістычных арміі імкнуліся яны затапіць пралетарскую рэвалюцыю ў крыві, задушыць маладую Савецкую краіну— грамадзянскай вайной і гаспадарчай разрухай.

Старарэжымнае чыноўніцтва і буржуазная інтэлігенцыя, контррэвалюцыйнае афіцэрства, кулацтва, царкоўнікі, партыі эс-эраў і меншавікоў—складалі аснову контррэвалюцыі, якая не застанаўлівалася ні перад чым у барацьбе супроць улады Саветаў.

Пралетарыят, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, мабілізаваў усе свае сілы для падаўленьня контррэвалюцыі. Ён арганізаваў Чырвоную армію для барацьбы з узброенымі ворагамі, ён арганізаваў Усерасійскую надзвычайную камісію (ВЧК) для падаўленьня ўсіх патайных сіл контррэвалюцыі, для барацьбы са змовамі, паўстаньнямі, сабатажам, спэкуляцыяй, шпіянажам і іншымі формамі контррэвалюцыі.

У нас няма іншага адказу, акрамя адказу ўстановы, якая б знала кожны крок змоўніка і умела-б быць не ўгаворваючым, а караючым безадкладна. „Без такой установы,— гаварыў т. Ленін пра ВЧК на IX зьезьдзе Саветаў,—улада

працоўных існаваць ня можа, пакуль будуць існаваць на сьвеце эксплёататары, якія ня маюць жаданьня паднесьці рабочым і сялянам на талерцы свае правы памешчыкаў, свае правы капіталістых". ВЧК на справе была такой установай.

Моцнае і пэўнае кіраўніцтва бальшавіцкай партыі, выключная ўвага Ўладзімера Ільліча Леніна, напружаная, нястомная работа вялізарнейшага арганізатара, лепшага з лепшых сыноў партыі, першага старшыні ВЧК—Фэлікса Эдмундавіча Дзяржынскага — зрабілі ВЧК-АДПУ і яго войскі, такой грознай сілай, пагрозай буржуазіі, няўсыпным вартаўніком рэвалюцыі, аголеным мячом пралетарыяту.

Увесь цяжар першай абароны Кастрычнікавай рэвалюцыі ад буржуазна-памешчыцкай контррэвалюцыі лёг на плечы ВЧК.

ВЧК, кіруемая камуністычнай партыяй, абкружаная павагай, падтрымкай і любоўю мільёнаў пралетарыяў Савецкай краіны— разграміла: азьвярэлых афіцэраў і юнкераў у Ленінградзе, „афіцэрскі саюз", „чорную гвардыю"—анархізм, змовы замежных паслоў, „Саюз абароны радзімы і волі". Савінкова, Лева-эсэраўскі мяцеж, „Саюз адраджэньня", „Тактычны цэнтр", „Нацыянальны цэнтр", рад шпіёнскіх арганізацый, царкоўнікаў—саюз рускага манашаства, саюз Міхаіла Архангела і г. д.; зламала сабатаж чыноўніцтва, ліквідавала марадзёрскую спэкуляцыю; вяла барацьбу з ворагамі дыктатуры пралетарыяту ў галіне гаспадарчага, культурнага будаўніцтва і інш.

Па сканчэньні грамадзянскай вайны і з пераходам да новай эканамічнай палітыкі ВЧК рэарганізавана ў АДПУ.

Клясавая барацьба пралетарыяту з капіталістычнымі элемэнтамі набыла другія формы. Нашыя ворагі разьлічвалі контррэвалюцыйнай работай у гаспадарчым апараце, прамысловасьці, кааперацыі—затармазіць аднаўленьне разбуранай вайной народнай гаспадаркі.

Потым заданьні зарубежных інтэрвэнтаў і Саюзу былых рускіх прамыслоўцаў і банкіраў („Торгпром"), арганізацыі: контррэвалюцыянэраў спэцыялістаў—„Прампартыя", „Саюзнае Бюро меншавікоў" і рад іншых груповак узялі стаўку на падрыхтоўку інтэрвэнцыі праз шкодніцтва ў плянавых органах, у прамысловасьці, у забясьпечаньні, на транспарце і ў сельскай гаспадарцы. Яны-ж арганізавалі шпіянаж, на

карысьць інтэрвэнтаў і падтрыманьне контррэвалюцыйнай дзейнасьці кулацтва, па зрыву мерапрыемстваў партыі ў галіне сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

Дбайнасьцю і ўпартасьцю АДПУ і гэтая стаўка ворагаў была біта.

Пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, абапіраючыся на вялізарныя сымпатыі і падтрымку працоўных, ВЧК-АДПУ з гонарам выканала свае задачы на працягу ўсёй сваёй 15-гадовай гісторыі. З гонарам выконвае АДПУ свае задачы і цяпер, бо АДПУ загартавала ў барацьбе з ворагамі свае рады, выхавала ў радох чакістаў бязьмежную адданасьць справе пралетарскай рэвалюцыі, справе Ленінскай партыі, іх поўную баявую адданасьць, няпрымірымасьць да класавага ворага і яго агентаў, умеласьць распазнаць гэтага ворага пад якою-б маскай ён не хаваўся і рашуча з ім змагацца.

Чакісты БССР пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б, нанесьлі не адзін сакрушальны ўдар контррэвалюцыйным арганізацыям на Беларусі, умацоўваючы гэтым дыктатуру пралетарыяту, ахоўваючы хуткі рост і росквіт сацыялістычнага будаўніцтва БССР, як неад'емнай часткі Савецкага саюзу.

АДПУ, працягваючы славутыя традыцыі ВЧК, адзначае сваю 15-ую гадавіну ў новай абстаноўцы, у абстаноўцы, калі стабілізацыя капіталізму скончана і ўзрастае пагроза новай інтэрвэнцыі супроць СССР.

З краіны адсталай, з краіны, якая была разбурана вайной і інтэрвэнцыяй, з краіны дробнага і найдрабнейшага земляробства, пралетарыят СССР, кіруемы Камуністычнай партыяй на чале з т. Сталіным, пры падтрыманьні працоўных і прыгнечаных мас усяго сьвету, ператварае СССР у краіну буйнейшай сацыялістычнай індустрыі і сацыялістычнага земляробства, у краіну Днепральстанаў, Магнітабудаў і Ангарабудаў. Закончана пабудова фундаманту сацыялізму і беспаваротна вырашана пытаньне „хто—каго“ на карысьць сацыялізму як у горадзе, так і на вёсцы. СССР канчаткова замацаваўся на сацыялістычным шляху.

Сусьветны імпэрыялізм, ахоплены нябачаным у гісторыі эканамічным крызісам, разьдзіраемы сваімі ўнутранымі супярэчнасьцямі, імкнецца знайсьці выхад з становішча, якое стварылася, за кошт узмацненьня эксплёатацыі працоўных мас,

за коштновага падзелу калёнійі паўкалёній,—шляхам новай імпэрыялістычнай вайны і ў першую чаргу вайны супроць СССР.

Працоўныя масы БССР, упарта працуючы па сацыялістычным будаўніцтве ўсяе краіны, на рубяжы двух сьветаў, на важнейшым ваенна-стратэгічным вучастку, у першую чаргу павінны быць гатовы да сустрэчы ворага ва ўсеўзбраеньні.

Працоўныя масы Беларусі не павінны забывацца ні на хвіліну на неабходнасьць умацаваньня абароназдольнасьц нашай краіны, пра ўзмацненьне ўвагі нашай слаўнай Чырвонай арміі, аб аказаньні практычнай дапамогі часьцям пагранахновы, органам і войскам АДПУ у барацьбе з усякімі праявамі контррэвалюцыі.

Мы маем вырзную пэрспэктыву пабудовы бясклясавага грамадзтва ў другой пяцігодцы, пэрспэктыву гіганцкага росту нашай гаспадаркі і матэрыяльна-культурнага ўзроўню працоўных СССР. Але чым больш пасьпяхова ідзе будаўніцтва сацыялізму, тым больш упартае і жорсткае супраціўленьне рэшткаў клясавых ворагаў унутры краіны.

Мы ідзем да бясклясавага грамадзтва, але шлях да гэтага грамадзтва ляжыць праз узмацненьне пралетарскай дыктатуры. Адным з асноўных органаў дыктатуры пралетарыяту зьяўляецца АДПУ.

Далейшае ўмацаваньне АДПУ, яго войск азначае ўзмацненьне дыктатуры пралетарыяту, забесьпячэньне будаўніцтва бясклясавага, сацыялістычнага грамадзтва.

ВЧК-АДПУ і яе 15-гадовая дзейнасьць маюць усясьветна-гістарычнае значэньне, бо справа абароны сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР, як ударнай брыгады сусьветнай рэвалюцыі, зьяўляецца справай міжнароднага пралетарыяту.

Хай-жа памятаюць нашыя ворагі, што „АДПУ патрэбна рэвалюцыі і АДПУ будзе жыць у нас на страх ворагам пралетарыяту" (Сталін).

Пад сьцягам Леніна, пад кіраўніцтвам ленінскага ЦК і правадыра рабочай клясы т. Сталіна, зьлітаваныя аддана-сьцю справе пралетарскай рэвалюцыі, чакісты па-ранейшаму будуць аддана змагацца за справу партыі, за справу рабочай клясы, за сацыялізм.

Слава баявым чакістам, пільным вартаўнікам сацыялістычнай бацькаўшчыны!

СЬЦЯПАН ЛІХАДЗІЕЎСКІ

# ДУША І СЭРЦА

(СТАРОНКІ З КНІГІ „ПАЎДНЁВАЯ ВАХТА")

## 1. Лінкор.

Сонца і мора.

Пристань імя трэцяга Інтэрнацыяналу сьвеціцца прыгожымі белымі калюмнамі. Да яе бязупынна з рокатам, з шумам, пырскамі лёгка і плаўна падыходзяць паравыя катэры. Яны прывозяць на бераг і бяруць з берагу камандзіраў і чырвонафлётцаў. Адводзяць іх на лінкор, на крэйсэры, на эсмінцы.

На сцэмэнтаваных ступеньках пристані стаяць і сядзяць чырвонафлётцы. Сядзяць, кураць і чакаюць сваіх катэраў. Вось гурт маракоў. На лентачках іхніх басказырак сьвеціцца назалотай: „Парыская Камуна".

— З лінкора, таварышы?

— Так так! З „Парыскай"...

Дзесяткі вачэй дапытліва і настарожана абмерваюць поглядам незнаёмца.

— У госьці да вас.

— А, з Беларусі?! Ад шэфаў?!—і сьцяна незразумеласьці прарвана. Знаёмства простае і таварыскае.

— Надоўга да нас?

— Ды сапраўдным мараком стаць пасьпееце! У нас гэта хутка. Калектыўнае шэфства прымем над шэфам!

Частуемся папяросамі—першы этап амаль кожнага знаёмства.

— Дык, значыць, зараз на карабель? Глядзеце вунь ён наш прыгажун!—у голасе чырвонафлётца выразна чуецца нотка нейкай нявыказнай гордасьці.

У бухце на рэйдзе стаяць караблі. На густа-сінім фоне вады іхнія сьветла-шэрыя абрысы паўстаюць выразна і акрэсьлена, як добра праяўлены нэгатыў. Сярод іх вылучаецца лінейны карабель „Парыская Камуна". Вылучаецца ён сваім большым памерам, вышынёю мачт, сваімі буйнымі дымаходнымі трубамі, цёмна-шэрай афарбоўкай бортавай брані.

Уздоўж і ўпоперак бухты снуюць катэры, узмахваюць вёсламі шлюпкі, ледзь прыкметна перасоўваюцца транспартныя судны.

— Спартакіяда ў нас зараз. Па афішах, відаць, ужо ведаеце. Вось і народу нашага на беразе багата,— тлумачыць тав. Краюха (прозьвішча выплыла пры далейшым знаёмстве), загарэлы, асувораны морам і плячысты марак:—покуль катэр дык можна і на заплыў паглядзець... Каманды спаборнічаюць..

Новаадкрытая водная станцыя „Дынама“ тут-жа побач каля прыстані. Яна кішыць людзьмі. Севастопаль высыпаў наглядаць плаваньне. Штацкая вопратка перамешана са сьнежнаю бялявасьцю морскай формы.

— Ну, як нашы?—зьвяртаецца Краюха да чырвонафлётца, напэўна таксама лінкораўца.

— А вось, самы разгар! Покуль што яшчэ не здаюць!— кідае ён на хаду і сьпяшаецца да сваей каманды. На яго-ных загарэлых плячох зьзяюць пад сонцам кроплі крыштальнай вады.

Стройныя гнуткія целы па камандзе кідаюцца ў ваду з галавою. Рукі ўзрываюць кару воднай паверхні. Плывуны ідуць „на сажонкі“, спосабам „ля-брас“.

Да прыстані падышоў лінкораўскі катэр.

Дакладваю аднаму з камандзіраў пра свой прыезд, паказваю дакуманты.

— Садзецеся! — кіўком галавы камандзір паказвае на катэр.

Набліжаемся да лінкора. Перад вачыма—цытадэль на вадзе.

Лінкоры—кляса ваенных караблёў. Іх галоўнае прызначэньне—барацьба з лінкорамі супраціўніка. Яны—асноўная сіла эскадры. Вачыма-ж флёту—крэйсэры, эскадраныя мінаносцы, старажавыя катэры.

Перад вачыма цытадэль, узброеная, забраняваная, пабудаваная мудрасьцю чалавечага розуму, зложаная з безьлічы самых складаных мэханізмаў.

З бартоў выглядаюць пікі гармат бортавай артылерыі. Грузныя вежы гармат асноўнага калібру разьмяркованы па ўсей даўжыні верхней палубы. Мачты ўзносяць у вышыню ценькія лініі радыё-антэн, утрымліваюць на сабе адгаліненьні рэй. На шлюпбалках падвешаны лёгкія шлюпкі.

На барту карабля вахценны камандзір з мэталёвым рупарам у руках рыхтуецца да прыёму катэра. Ён загадвае, да якога зрэзу—правага ці левага прычаліць. Правярае дакуманты на звальненьне, прапускі. Ногі ў белых паўбацінках мільгацяць па ступеньках трапу. Людзі, што прыбылі з катэрам, рассыпаюцца па караблі. Дзяжурны чырвонафлёцец праводзіць мяне да каюты камісара карабля.

Знаёмства за знаёмствам.

З няпрывычкі губляешся ў карабельных лябірынтах, імкнешся запамятаць праходы і выхады, разьмеркаваньне каюот, памяшканьняў!

Каюта №... Тут зьмяшчаецца бюро камсамольскага калектыву лінкора. Яна маленькая, але ўтульная. У ёй нічога лішняга. Усё прыгнана, усё разьмяркована з дакладным разьлікам. Наглуха прымацаваны да палубы ложак, над ім другая пасьцель на жалезнай сетцы. Шафа, умывальнік, стол—на ім невялічкая машынка „Манарх" з папсаванаю літараю „у".

Жыльцы каюты №... тут-жа.

Вася Макееў, адкінуўшыся на сьпінку стула, голы да пояса, шчыльнага целаскладу чалавек, нізка пастрыжаны, са зьлёгку нахмуранымі чорнымі брывамі, апавядае пра работу лінкораўскага камсамолу, знаёміць з першымі „азамі" карабельнага распарадку. У такт гутаркі ён праводзіць далонямі па сваёй шырокай грудной клетцы, выкладае на стол свае моцныя рукі, загартаваныя ў фізычнай рабоце. Ня так даўно ён працаваў качагарам, а зараз адказным сакратаром калектыву.

Намесьнік сакратара, агітпроп Іван Шаўчук, перабірае папку з пратаколамі паседжаньняў і сходаў. Растрапаная шавялюра, расхрыстаны каўнер рабочай рубашкі, крупінкі поту на ветлым твары паўстаюць, як-бы ў якасьці знадворных сьведак ягонае працавітасьці. На ім ляжыць і ўся канцэлярыя калектыву і функцыі машыністкі. Ён адначасна з гэтым зьвязаны з адным з казэматаў, нясе абавязкі артылерыста.

— Дык значыць з сёньняшняга дня мараком ты ў нас,— падагульняе ні то пытаньнем, ні то звычайнаю заўвагаю Вася Макееў.

— Ды ўжо-ж... згаджаюся я.

* * *

У 6 гадзін сыгналяць на пабудку. Мэлёдычны горн нечаканасьцю разрывае ранішнюю гладзь і морскі спакой. У чырвонафлёцкай расшыфроўцы гэта азначае: „Уставай, уставай братокі" Горн разблытвае сеці здаровага сну. Апошні—як ранішняя смуга на ўсходзе сонца, што роўна зацягвае далягляд, стушоўвае мяжу між вадою і небам.

Смуга сну праходзіць. Варушацца у каютах, кубрыках, казэматах, на верхней палубе, на зрэзах. Разгінаюцца плечы, разводзяцца рукі. Пачынае працаваць мускулатура. І калі надвор'е цёплае (а халодным яно рэдка калі тут бывае) зьлёгку разамлелыя ад сну целы кідаюцца ў сьвежасьць морскай вады.

Сонца зьлізвае вільгаць з масыўнай брані шэрых гарматных вежаў. Суворыя жэрлы гармат асноўнага калібра ў чахлох. Яны чакаюць баявых практыкаваньняў. Чакае асноўны калібр, чакае бортавая артылерыя. Зэніткі бесьперапынна наглядаюць за паветранымі вышынямі. Так пачынаецца баявы дзень лінкора.

У рынду выбіла чатыры шклянкі. Гэта азначае 8 гадзін.

— На сьцяг зважай!—праносіцца каманда.

Камандзіры чырвонафлётцы, што знаходзяцца на верхняй палубе, вокамгненна выстрайваюцца. Твары зьвернуты на ют карабля.

Пад гукі горна на юце павольна ўздымаецца ваеннаморскі сьцяг.

Качагары і артылерысты, электрыкі і машыністы, снабжэнцы і хімікі праводзяць гадзіну баявой падрыхтоўкі. Групамі, каля баявых мэханізмаў, на верхняй палубе, выслухоўваючы сваіх камандзіраў, распрацоўваючы КУ-32 [1]) яны засвойваюць свае абавязкі, авалодваюць тэхнікай свайго загадваньня. Вучацца аддаваць свой розум, свой вопыт, саміх сябе на агульную справу—абароны Краіны саветаў.

Працуюць па спэцыяльнасьцях. У швейнай майстэрні рыхтуюць адзеньне. Пекары робяць новы замес. У шавецкай правяць і шыюць абутак. Друкары рыхтуюць чарговы нумар карабельнай шматтыражкі. І кваліфікаваныя кокі гатуюць смачны флёцкі абед.

[1]) „Корабельный устав" 1932 г.

Перад полуднем ладзяць прыборку і 15-хвіліннае купаньне. Разьмясьціўшыся на верхняй палубе загараюць пад гарачым паўднёвым сонцам. Бачкавыя ідуць да камбузу. У бачкі наліваюць гарачую сьвежую страву, нясуць на верхнюю палубу. І тут ужо, расьсеўшыся купкамі, падаслаўшы пад сябе газэту, пад гучны лінкораўскі аркестр палуднуюць.

Зноўку работа па спэцыяльнасьці.

Пасьля вячэры ў карабельным клюбе зьбіраюцца чытаць газэты. Бяруць з бібліятэкі мастацкую літаратуру. Паасобныя з чырвонафлётцаў вывучаюць чужаземныя мовы.

Афармляюцца адпускныя дакуманты, біркі—звальняюць на бераг.

Чырвонафлётцы драяць ропу. Дасьціпна выгладжваюць вымытыя да сьнежнасьці форменку і штаны. Заладжваюць на безказырках лентачкі. Разьведзенаю крэйдаю замазваюць плямы на паўбацінках.

Акуратнасьць у захаваньні чыстаты адзеньня, усеагульная апратнасьць—закон чырвонафлёцкага побыту. Абы ў якім выглядзе чырвонафлёцец на бераг ня сыйдзе. У кішэні на ўсякі выпадак захоўваецца кавалачак крэйды. Кожная новая плямка ў момант зьнішчаецца.

Сышоўшы на баркас, садзячыся ня лаўку, падсьцілаюць пад сябе чыста вымытую насоўку.

Катэр пададзены. Жывым ланцужком каля вахценнага камандзіра праходзяць звольненыя на бераг. Баркас, што прычэплен да катэра, і сам катэр напаўняюцца. І рупар перадае скандэсаваны голас каманды вахценнага:

— Старшыня! Можна адвальваць!

— Ёсьць, адвальваць!—адказвае старшыня з катэра.

Морскія хвалі раступаюцца, шумна пенячыся, кідаючыся пырскамі. На сінім фоне мора катэр з чырвонафлётцамі—як лебядзіная стайка.

Пасьля чаю, пасьля вячэрняй праверкі на верхняй палубе глядзяць кіно. Белае палотнішча экрану разьвешана на страле. Яно зьлёгку варушыцца пад ветрам.

Стоячы, прысеўшы на кнэхты, сочаць за паасобнымі эпізодамі грамадзянскай вайны. Бачаць на экране свой лінкор, пазнаюць сваіх таварышоў, саміх сябе.

У кубрыках душна. І таму на верхняй палубе, на зрэзах пачынаюць зьяўляцца пасьцельныя скруткі. Расьцілаюць

матрасы, яшчэ пад сьвежым уражаньнем ад экрану, ад перажытага дня, багатага, насычанага рупнай работай, морам і сонцам.

На правым борце чуваць жвавую гутарку. Чырвонафлёцец, расьцілаючы пасьцель, дэклямуе:

У наших дней графа любви пустая.
Здесь никем не ставится „на вид".
Нет нигде и ни в одном уставе
Ни о девушках, ни о любви.

— Няпраўду паэт напісаў,—пярэчыць яму таварыш,

— Чаму няпраўду?—пытае той, хто дэклямаваў.

— Ну возьмем хоць-бы цябе. Амаль праз кожны дзень лісты атрымліваеш. Якая-ж тут пустата графы?!

Адказу першага ня чуваць і ўсе сьмяюцца.

Прыходзіць здаровы сон пад адкрытымі жнівенскімі зорамі.

Гукі над бухтай уночы выразныя і чутныя. Дзесьці шлёпае вёсламі па вадзе адзінокая шлюпка. Грукацяць цягнікі на Севастопаль з новай зьменай курортнікаў. Прыслухайся— і чуеш спакойнае і роўнае дыханьне лінкораўскіх машын. Узмоцнена працуе вэнтыляцыя. Яна манатонна шуміць і падае сьвежае паветра ў каюты, кубрыкі. У настарожаным спакоі адпачывае лінкораўская артылерыя.

І пад гэтыя выразныя,звонкія кансанансы ночы стаіць на сваіх пастох карабельная вахта.

## 2. Душа і сэрца

Разьвітайся, Масква, з камсамольцамі—ідзем у флёт добравольцамі.
(Прыпеўка.)

Вобраз прысадзістага і плячыстага чалавека з размашыстай хадой, вольнымі рухамі здаравенных рук, у морскай форме, з паласатым трыкутнікам цяльняшкі на грудзёх. перакрыжаванага брэзэнтовымі лентамі, набракшымі патронамі, узброенага вінтоўкаю і наганам, жыве між намі.

Хто ня помніць матросаў—камандзіраў чырвонагвардзейскіх атрадаў, радавых франтоў сухазем'я, герояў грамадзянскай вайны?

А флёт быў разношаны. А флёт быў у запусьценьні. Рэспубліка расла. Рэспубліка крыяла. Рэспубліка станаві-

лася на трывалыя ногі. Чырвоная армія брала Перакоп, расстрэльвала Калчака, асноўным калібрам лінкораў грамiла Царскае Сяло, занятае бандамі Юдзеніча. У пашарпаных шэрых шынэльках, прастрэленых сьвінцом і прасьвідраных суворымі ветрамі войн, варочаліся Глебы Чумалавы на свае заводы—аглядалі іх, аднаўлялі іх.

Рэспубліка расла і патрабавала надзейнай абароны. Сухаземныя цытадэлі былі забясьпечаны. Трэба было аўладаць і бурапенным морам. Вуснамі IX зьезду Саветаў рэспубліка сказала: „Быць флёту!“ І голас быў падтрыманы яе маладым пакаленьнем—над флётам ўзяў шэфства камсамол.

У цесныя каморкі камсамольскіх камітэтаў прыходзілі фабрычныя хлопцы з першым пушком на вуснах. Гарачыліся, патрабавалі, прасілі—і хавалі ў кішэню спэцовак пуцёўкі.

З Уралу і Масквы, з Архангельску і Таганрогу ехалі на Бальтыку, на Чорнамор'е. Ехалі ў флётыліі—Дняпроўскую, Касьпійскую, Амурскую.

На баявыя караблі,
да батарэй берагавой абароны,
у зэнітную артылерыю,
у часткі марской авіацыі,
на пасты службы назіраньня і сувязі
на дапаможныя судны,
у гідраграфічныя экспэдыцыі—
ішоў камсамольскі маладняк.

Быў час, калі на караблёх жылі такія „іванморы“. Рыцары цёмных і гразкіх гарадзкіх ускраін, рыцары вострай фінкі—іх вабіла сытасьць морскага пайка, шырыня натуры клёшніка са зьбітаю бесказыркаю на патыліцу і разгульная бесшабашнасьць сутарэньня публічных дамоў. Гэта яны былі „героямі“ сабатажу перад рэспублікай, „героямі“ вядомай Кранштадзкай авантуры 1921 году. Гэта ад іх прышлося ачышчацца маладому чырвонаму флёту.

Сапраўдныя „ваенморы“—дабравольцы з камсамольскага папаўненьня—прад'яўлялі свае дакуманты. Яны ў хуткім часе сталі гаспадарамі, „душой і сэрцам“ нашага флёту. Многія з іх надоўга засталіся на караблёх. Многія з іх

пасталі „морскімі ваўкамі", надзейным касьцяком флёту. Многія з іх прайшлі вялікі шлях ад радавога да камандзіра і камісара карабля.

І ім, старым камсамольцам, зараз камуністам, ёсьць багата пра што ўспамянуць.

—„Караблі разваленыя. Галюнамі пасталі. Мы чысьцім і мыем. Рамантуем і ўводзім у баявы строй. Харчуемся траской (Бальтыка), камсой (Чарнамор'е). Маем аўсяны хлеб. На Паваложжы—голад. Зьбіраем сход, мяркуемся і па паўфунта свайго пайка адлічваем таму, хто адчуў над сабою стыхію голаду.

— „Кляса ў Ваенна-морскім вучылішчы апальвалася раз на тыдзень. Губка прымярзала да дошкі. Выкладчыкі і вучні займаліся ў польтах і шапках, у кажухох і валёнках. Самым любімым месцам у будучых камандзіраў быў куток, дзе грэлі гарбату. Сюды падавалі пару для самавараў. Тут адаграваліся, тут арганізоўваліся, тут будавалі вялікія юнацкія пляны.

— „Чорнае мора закідана мінамі. Гэта—разьвітальны „падарунак" англа-францускай злучанай інтэрвэнцкай эскадры. У мора выходзілі тральшчыкі і ачышчалі мора ад мін. Пеністыя масы хваль узьнімаліся і наступалі. Змывалі вахценных—целы іх ішлі на дно, у стыхію рыб і мэдуз. А мы тралявалі.

— „Адрамантавалі „Камінтэрн"—першы крэйсэр чорнаморскага флёту. Ён уваходзіць у строй, як вучэбнае судно.—„Камінтэрн", гэтыя неразгубленыя рэшткі таго, што калісь называлася крэйсэрам, выходзіць з рамонту? Асьмельваецца ўзяць курс на мора?" Абываталь ня верыць. Ён упэўнены ў іншым. Ён сабраўся на беразе, ён прымасьціўся на лаўках Прымбулю, ён нарыхтаваны з усёю казытліваю цікавасьцю быць сьведкаю новай бяссэнсоўнай аварыі. А між тым „Камінтэрн" набірае поўны ход. Абываталь ня верыць. Абываталь зьбянтэжаны. Абываталь у роспачы. Ён шалее. Ён глыбока ўздыхае і суцяшае самога сябе: „Не, крэйсэр сам ня мог пайсьці! Не! Яго павялі падводныя лодкі". А нашы качагары падсыпаюць качагаркам вугальку, ды падсыпаюць. І сталёвы кіль напорна разрэзвае сьпіны хваль.

— „Многім давялося адразу апынуцца ў ролі палітківаў—нікоў—камсамольцы-ж. Маракі нішто сабе, а наконт палітыкі—слабіць.

— „Ведаеце, пытаю, хто такі Карл Маркс?“—„Ды гэта, адказваюць, вучоны, што ў Нямеччыне Савецкую ўладу рыхтуе“. Бачу—многа работы наперадзе. Ды давай навапочваць, дзень, за днём, дзень за днём разварушыў пакрысе—газэты рэгулярна чытаюць, пытаньні даюць, цікавяцца... Труднавата было... А паспрабуйце зараз такія пытаньні нашаму чырвонафлётцу паставіць!

— „Новы флёт—новы і побыт у ім. За кожную „дробязь“ трэба змагацца. Знайшліся ініцыятары. „Лігу барацьбы з матам“ арганізавалі (а мат так і вісеў ў паветры). Як-жа дзейнічаць? Дагаварыліся—за лаянку штрафаваць па капейцы. І што-ж? На першым пачатку „злосныя“ мацяршчыньнікі амаль усю сваю пэнсію на штрафы прасаджвалі... А пасьля паступова стрымлівацца пачалі. Разгарнулі культурна-масавую работу—драматычныя гурткі, музычныя, сцэну ажывілі самадзейным мастацтвам“.

Ім, старым камсамольцам, ёсьць багата пра што ўспамянуць. Пра гэраічнае і баявое, пра поўнакроўнае і вясёлае. Камсамольцы першага набору ёсьць і на лінкоры „Парыская Камуна“. Яны зараз—камандзірамі, кваліфікаванымі спэцыялістымі. Расстаўлены на адказных пастох. Такія таварышы, як Рэмэль (вечна рухавы, тлумачыць з запоем: у руках нарыхтаваны аловак, слова—вокамгненая ілюстрацыя, чарцёж), як старшы артылерыс Чалпанаў не аднойчы прэм'яваны, як Церахаў, як Стаўроўскі, як ўрач Ключнікаў, як іншыя—гордасьць лінкора, ягоны актыў.

Яны маюць дзесяцігадовы стаж морскай службы, службы ў Чырвоным флёце, службы Саюзу савецкіх рэспублік. Іх баявыя традыцыі засвойвае моладзь, якая прыходзіць што восень на караблі для новага папаўненьня. Яна вучыцца ў іх, пераймае іхні вопыт, звычкі, сама становіцца „душой і сэрцам“ флёту.

* * *

Іх багата, маладых харошых хлапцоў, перадавікоў-камсамольцаў. Таганрогцы, і масквічы, уральцы і ленінградцы, камсамольцы з Поўначы і камсамольцы з Беларусі—усе яны жывуць адным. Ці то будучы машыністамі, ці то электрыкамі, ці то камэндорамі—адзіную вахту нясуць яны. Біяграфія аднаго з іх—біяграфія соцень тысяч.

Іх вобразы, вобразы жывых людзей, людзей у ваеннай морскай форме, праходзяць прад вачыма сьветла і выразна.

Поўнатвары хлапец з даверчывымі мяккімі вачыма. Знаёмімся:

— Пятро Ляшкоў.

У гутарцы ягонай моцны беларускі акцэнт.

— Дык значыць землякі?!

Ён разгортвае „Чырвоную Зьмену“. Прабягае вачыма па назвах знаёмых гарадоў мясцовасьцяй. Знаходзіць знаёмыя прозьвішчы.

— Вось жыву тут, служу. І сачу,—як-жа там у нас? Газэты, праўда, для гэтага мала. Лісты рэгулярна атрымліваю. У адпуcкох бываю. Чулі можа—вёска Стары Бобр у Крупскім раёне ёсьць. Радзіма мая. Калгас там зараз.

Да 1927 году ён быў яшчэ за пастуха—ганяў на пасту сялянскія каровы. Зарабляў на адыходных промыслах—шпалы часаў. А пасьля прыехаў у Сталіна—работа ў шахтах. Работа грузчыкам на заводзе імя Коваля. І служба на лінкоры з канца 1930 г. Пятро Ляшкоў дастае срэбны партсыгар (шэфскі падарунак камсамольцаў Севастопальскага морскага заводу). Круціць цыгарку.

— А цяпер я машыністам. Экзамэн вытрымаў на малодшага камандзіра. Машыны свае—ведаю. Год быў членам прэзыдыуму ячэйкі, рэдагаваў насьценку „Ротар“, а зараз камсамольскі бюлетэнь выпускаю—зрыўшчыкаў спаборніцтва працягваем, на карыкатуру саджаем.

— Пра дысцыпліну кажаце? Праступкаў я сам ня маю покуль што—Пятро Ляшкоў ледзь прыкметна ўсьміхаецца:—заахвочваньні покуль што толькі... каля дзесяці назьбіраецца.

Пятро Ляшкоў з „Краснага чарноморца“, з „Правды“ рэгулярна робіць выразкі. Ён зьбірае іх, падбірае іх і пасьля разам з лістом да бацькоў кладзе іх у канвэрт. Разам з весткамі пра жыцьцё сына—чырвонафлётца Пятра Ляшкова—лістаносец прыносіць пастановы партыі і ураду, пра рэвалюцыйную законнасьць, пра ахову сацыялістычнай маёмасьці.

І ўяўляецца часам Пятру Ляшкову, як там, за тысячы кілёмэтраў, далёка ад мора і поўдню, у стара-бобрскім калгасе на Беларусі сьвеціцца лямпа ў вясковай хаце і гурт стара-бобрскіх калгасьнікаў перачытвае ад літары да літары

тое, што прынёс надоечы лістаносец з апошняй поштай. І ён радуецца гэтаму. І ў гэтым—часьцінка яго самога, яго—былога пастуха і часальшчыка шпал, шахцёра і лінкораўскага машыніста, камсамольскага работніка—члена партыі.

Павел Галаванаў таксама машыніст. Ударнік Пясочненскай фаянсавай фабрыкі (Заходняя вобласьць) з багатым вопытам работы на фронце калектывізацыі (брыгадзір па рамонце калгаснага інвэнтару) у баявых паходах лінкора стаіць на адказным пасту—ля манэўравага кляпана. Рацыяналізатар і спэцыяліст, ён гаспадарыць ў аднэй з галоўных машын. Ні аднае паломкі, ні аднаго скісаньня мэханізмаў пры ягонай вахце. Патрабавальны да сябе і падпарадкаваных яму, ён працуе чотка і дакладна, як мэханізм ручнога гадзіньніка, якім ён прэміяваны.

„Жывы ініцыятыўны хлапец“—так характарызуюць у бюро камсамольскага калектыву Валянціна Буракова, сакратара камсамольскай ячэйкі службы снабжэньня У ягонай хадзе, у ягоных рухах многа яшчэ чаго неабмужалага. На вуснах ягоных прабіваецца першы юнацкі пушок. І ён сапраўды яшчэ зусім малады. Нараджэньня 1911 году з піянэрскай работы разам з прызывам 1909 г. прышоў дабраводьцам у флёт. Флёт яго вырошчвае, флёт его выхоўвае. І Валянцін Буракоў з такім-жа гонарам выконвае свае абавязкі ў адміністрацыйна-фінансавай групе, як машыністы—каля качагарак, як камэндоры—каля гармат.

Чарнабрывы шчуплы чырвонафлёцец уваўшоў у каюту.

— Як маемся, Бяссонаў?—пытае Вася Макееў.

— Ды сёньня з лінкора выбіраюся.

— Куды?

— Камандаваньне на другі карабель пераводзіць.

— Ну і як жа ты?

— Еду,—на вачох у Бяссонава адлюстраваліся агенчыкі ледзь прыкметнага суму адвітаньня. Шкода хлапцоў. з якімі зжыўся, з якімі спрацаваўся, з якімі ў паходы хадзіў.

— Ну, што-ж, валяй, дружбак! Ды не здавай!

— Ды ўжож. Будзем трымацца.

Бяссонаў прынёс з сабою зьвязку фатаграфій. Хлопцы абменьваюцца сваімі здымкамі. Падпёршы далонямі твар,





яны доўга думаюць над тым, як-бы найлепей зрабіць надпіс, як-бы гэта цяплей і прыгажэй вышла.

Катэр пададзены. Бяссонаў разьвітваецца моцным поціскам рукі. Ён стройна зьбягае па трапу са сваім дарожным туфэрачкам. І калі катэр рушыў—ён плаўна размахвае ў паветры правай кісьцю чырвонафлётцам, што згрупаваліся на верхняй палубе. Вецер размахвае ленгачкі яго бесказыркі.

— Харошы таварыш!—Хтосьці цёпла кідае ў заключэньне.

Іх багата, харошых таварышоў, перадавікоў камуністаў і камсамольцаў. Яны касьцяком у флёце. Яны касьцяком на лінкоры, дзе партыйна- камсамольская праслойка даходзіць да 80 проц. Яны вядуць за сабой ўсю чырвонафлёцкую масу.

На дошцы для абвестак зьявіўся вялізарны плякат. Каляровым алоўкам старана абрысаваны твар. Сіні каўнерык форменкі з белымі палоскамі. Чырвоныя губы. Афарбаваныя ў чырвонае шчокі.

„Вось ён нетчык [1]) Тынкаяк!"

Каля дошкі спыніліся. Глядзелі і расплываліся ва усьмешцы.

— Вось дык абмалявалі!

— Нос, як у жывога!

— І губкі падфарбавалі!

— У другі раз не захоча красаваццa на дошцы!

З плякату глядзеў чалавек са зьбянтэжаным тварам. Чалавек, які парушыў дысцыпліну, зрабіў праступак. Чалавек, якога трэба судзіць. І яго судзілі. Яго асуджвалі таварышы. Асуджвалі за тое, што ён зрывае сацыялістычнае спаборніцтва між падразьдзяленьнямі, парушае адзін з пунктаў умовы, дзе гаворыцца: „в) змагацца за нуль дысцыплінарных праступкаў".

І ўявеце чырвонафлётца Тынкаяка, які падышоў да плякату і глядзіць на самога сябе. У Тынкаяка з плякату зьбянтэжаны твар. У Тынкаяка—жывога чалавека—твар яшчэ болей зьбянтэжаны. Тынкаяк—жывы чалавек—спачатку абураны. Кроў прылівае да шчок. Некалькі сэкунд ён спрабуе высьвет-

[1]) „Нетчыкамі" называюць чырвонафлётцаў, што не зьяўляюцца з берагу на карабель у цьвёрда вызначаны для іх час.

ліць: „І хто гэта размаляваў? Дазнаюся, абавязкова!" Потым гэтая думка дзесьці губляецца. „Малявалі ўсе, усе вось тыя, што праходзяць каля цябе, што стаяць з бакоў і глядзяць на цябе, малявалі ўсе твае таварышы"—хтосьці паказвае Тынкаяку—чалавеку. І Тынкаяк з плякату з гэтым згаджаецца.

І чырвонафлёцец Тынкаяк ужо сам пачынае судзіць таго Тынкаяка, які зрабіў праступак і трапіў на плякат. Ён парывіста паварочваецца і кудысьці сьпяшае... Гэта ён, праз пэўны час ужо, на запытаньне камсамольскага калектыву: „—Ну, а як з дысцыплінай?" пакрыўджана, штосьці ўспомніўшы, адкажа:

— З дысцыплінай? Бывала...

На правым зрэзе ідзе пасяджэньне бюро калектыву. Члены бюро ў поўным зборы. Саша Векшын, Шаўчук, Карсунскі, Бачкоў расьселіся на палубе, падгібаўшы ногі, абхваціўшы рукамі калені. Вася Макееў вядзе пасяджэньне. Ён хмурыць бровы, сьпісвае лісткі блёкноту, устаўляе свае заўвагі, і на гэтым звычайным пасяджэньні, дзе гавораць пра вынікі вучэбнай стральбы і адказ на ліст варненскіх маракоў, пра дысцыплінарны праступак камсамольца і ход палітвучобы ў машынавай групе, пра сувязь з шэфамі і пляны новага выхаду ў мора, як у люстры паўстаюць малюнкі штодзеннай баявой работы камсамолу, усяго жыцьця лінкора. Сюды прыходзяць на параду—у свой камсамольскі штаб. Сюды прыходзяць знайсьці дапамогу і кіраўніцтва. Тут людзі дамаўляюцца пра спрэчныя пытаньні. Тут засноўваюцца ніці камсамольскай згуртаванасьці, таварыскай чуласьці і суворай патрабавальнасьці.

МІКАЛАЙ МАКАЕЎ

# СТРОЙ МАЎЧАЎ

(НОВЭЛЯ)

## I

Яго слухаюць тры чалавекі. Слухаюць усёй сваёй істотай, каб не прапусьціць аніводнага слова. Яны шчыльна паселі на яго ложку ў маленькім і вільготным пакойчыку казармы.

Адна за аднэй успыхваюць сярнічкі, асьвятляючы напружаныя твары чатырох.

У казарме ўжо даўно ноч. І чацьвёра прыслухоўваюцца да кожнага шораху за дзьвярыма. Ім кожную хвіліну здаецца, што там ужо зьвіняць бліскучыя шпоры, што там, за дзьвярыма, ЁН—з новенькім пэрлямутравым стэкам прыслухоўваецца да іхняга шэпту.

Высокага худога салдата слухаюць уважліва. Ён расказвае ім пра вёску, пра самае блізкае ўсім у казарме. Твар Тодара Матусевіча бляды і даўгі. Ён здаецца яшчэ даўжэйшым, калі ўспыхвае сярнічка.

— Дык вось, хлопцы, навінак хоць адбаўляй. У Трахіма пан Радзівіл забраў карову. Дома плачуць. У Цімоха трэці дзень няма хлеба. Твой Язэп захварэў. Я нават ня рады быў, што быў у водпуску. Тут б'юць, а там... І салдат зрабіў выгляд, які добра зразумелі яго землякі-аднавяскоўцы.

— А нам кажуць...

— Ды кінь ты... І Матусевіч уздыхае. За ім міжволі ўздыхаюць усе.

— Кажуць... Яны табе скажуць.

— Сам пан афіцэр кажа.

— Афіцэр... І я да гэтага часу верыў афіцэру.

— А цяпер?

Зноў успыхнула сярнічка і Матусевіч выняў з кішэні скамечаны аркуш паперы. Усе маўчалі. Насьцярожана прыслухоўваліся.

— Што гэта?

Тодаравы слухачы не маглі чытаць. Яны былі няпісьменныя. Але кожны з іх адчуваў, што ў гэтым лісьце паперы ёсьць вялікая праўда.

— Толькі каб ні гуку ніхто. Хочаце, прачытаю.

Блiснула сярнічка і Матусевіч першы раз бачыў у сваіх землякоў боязкае жаданьне слухаць пра тое, што не дазволена слухаць панам афіцэрам.

II

— Раўнуйся!..

Афіцэр Юзэф Былінскі абвёў вачыма рад і нэрвова націскаючы рукі пачаў хадзіць.

— Салдаты! У мяне да вас. Цьфу, пся крэў...—Афіцэр ня ведаў з чаго пачаць сёньняшнюю прамову і злаваўся.— Наша армія... Наша айчызна, салдаты... Наша айчызна вельмі паважае і любіць тых, хто служыць ёй верай і праўдай і мы ўзнагароджваем такіх салдат. Але, калі салдат пачынае чытаць бандыцкае пісаньне, значыць ён здраджвае айчызьне. Салдаты, сёньня раніцой я знайшоў у карыдоры казармы адно такое пісаньне. Я пытаюся, хто прынёс яго сюды?

Строй маўчаў.

Афіцэр зноў абвёў усіх вачыма і нэрвова пачаў шчыпаць свае чорныя вусы.

— Матусевіч Тодар—працадзіў ён скрозь зубы і застанавіўся каля высокага худога салдата. Матусевіч зрабіў два крокі наперад, выцягнуўся, хутка прыклаў да казырка далонь і нібы замёр.

Строй маўчаў.

Некалькі чалавек пераглянуліся, але гэтага не заўважыў афіцэр.

— Матусевіч Тодар. Я прадстаўлю вас да ўзнагароды, калі вы скажэце, хто прынёс у казарму вось гэтую паперку, тым больш, вы былі ўчора дзяжурным. Вы павінны...

Матусевіч маўчаў. І калі афіцэр уставіўся на яго бліскучымі ад злосьці вачыма, ён спалохана загаварыў:

— Я быў дзяжурным па казарме, пане афіцэр, але я ня ведаю, хто прынёс гэтую паперку...

— Ня ведаеш?—Ха-ха-ха!..

Але ад гэтага сьмеху строй уздрыгануўся.

— Ня ведаю, пане афіцэр...

— Маўчаць, галганы! Адказвайце! Я пытаюся ў вас! І на твары спалоханага салдата, ад новенькага пэрлямутравага стэку зьявіўся крывавы рубец.

— Ня ведаеш? Сволач!.. І ўсе сволачы!.. Зважай!

І строй застыў, толькі моцна сьцiскаліся кулакі ў салдат. Яны адчувалі боль свайго таварыша.

— Псякрэ ў, бальшавiк!..--злаваўся афіцэр. Пэрлямутравы стэк бліскаў на сонцы сваёй лякірованай паверхняй, пераскокваў з аднэй рукі ў другую.

На твары левафлянговага вузкай дарожкай спаўзала кроў. Буйнымі крыштальнымі гарошынамі выпаўзалі з вачэй салёныя кроплі.

А строй маўчаў, задуменна апусьціўшы ўніз суровы як ніколі погляд.

Падышоў паручнік.

— Я загадваю вам адвесьці гэтых галганаў у цір. Павучэце іх страляць, пане паручнік.—І афіцэр, хутка павярнуўшыся, зьнік за вуглом казармы.

III

Афіцэр у ціры ўласнымі рукамі расклейваў новенькія мішэні, акуратна разгладжваючы іх па шчытох. Зьявіўся строй з паручнікам. Былінскі задаволена ўсьміхнуўся.

На дзьвюх наклееных зараз мішэнях быў намаляваны чырвонаармеец.

Афіцэр хацеў адпомсьціць бальшавіком за лістоўкі.

Салдаты пераглянуліся. Афіцэр скамандваў „зважай“.

Левафлянговы з крывавым рубцом на твары штосьці няпрыкметна шапнуў таварышу. Сакрэт левафлянговага схаваная іскрай быў пераданы астатнім.

— Пся крэў!.. Шарэнга! Пяць патронаў!... Агонь.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Строй маўчаў. Пасьля чацьвертай чаргі стрэлаў Былінскі лютаваў ад злосьці і трос у паветры пэрлямутравым стэкам.

Ніводная з мішэняй, на якой быў намаляваны чырвонаармеец, ня была кранута кулямі. Былінскі быў бязьсільны ў сваёй зьвярынай злосьці. Ён адчуваў вялікае папярэджваньне ад сваіх салдат, „што верай і праўдай служыць айчызьне“. Ён павярнуў строй назад і ціха крочыў з імі да казармы.

А праз дзень...

## IV

Пакой казармы вільготны і няпрытульны. Мёртвая гадзіна. Але нікто ня сьпіць. Усе пытлівым поглядам глядзяць на пусты ложак Матусевіча. Дзе ён? Тодарі?. Цішыня... І яго таварыш ціха-ціха гаворыць цяжкія, бязрадасныя, балючыя словы.

— Павесілі Тодара.

ТОДАР АЛЕСІН

# ДАЛЕЙ

Скрозь цемень прабіваліся першыя праблескі золаку. Паплавы пакрываліся ранішнімі кроплямі срабрыстай расы. А з небасхілу хутка выплывала белае сьвятло, якое штораз, то ўсё далей і далей распаўзалася па вільготнай зямлі.

Крыху пазьней, калі полк падняўся на ногі, член бюро партыйнай ячэйкі Яўхіменка, ён-жа камсамольскі арганізатар узвода, увайшоў у ленкуток.

Праз вокны выглядала вясёлая лясная раніца, перапоўненая птушынымі сьпевамі.

Тымчасам Яўхіменка сядзеў за шахматным столікам і на чыстым полі невялічкага белага ліста разьмяркоўваў пункты тэзісаў дакладу на сёньняшні камсамольскі сход.

Хлопцы зьбіраліся на сход. Сядзелі. Чакалі. Дзяліліся думкамі пра выкананьне першай задачы і гутарылі аб сваёй працы на далейшы час. Чырвонаармеец Боня Пучкароў—рослы і плячысты—сваей гутаркай зьвярнуў увагу на сябе многіх хлапцоў. Ён узмоцнена агітаваў за „Аддзел пытаньняў“ у штодзёнцы.

— А як-жа гэта разумець?—запытаў у Пучкарова чырвонааармеец Ліміткін.

— Як?

— Але—пачуліся некалькі галасоў.

— Вельмі проста,—тлумачыў Пучкароў. У гэтым аддзеле будзем пісаць подлінна і справядлова колькі было сягодня зроблена заўваг камандзірам Ліміткіным па дрэннай устаноўцы кулямёта. Во! Подлінна і справядлова. Калі будуць Ліміткіным выпраўлены свае недахопы і г. д.

— Чуеш, Ліміткін,—каб больш прыцягнуць увагу да Ліміткіна, запытаўся чырвонаармеец Гародкін. А Пучкароў гаворыць праўду. Ня выправіўшы недахоп першай задачы ня пойдзеш далей да наступнай. Разумееш?

— Больш ты нічога ня прыдумаеш,—зласнавата аскірзануўся Ліміткін.

Некаторыя з хлапцоў усьміхнуліся, некаторыя далі свае заўвагі:

— Добрая будзе штука. Жывая. Вясёлая.

— Зрабіць такі аддзел.

— Пучкароў маладзец.

— Багата на якім матэрыяле,—далей тлумачыў Пучкароў,—можа рабіць такі аддзел: па няправільнай наводцы, па дрэннай устаноўцы цэлі і цэліка, па морганьні вачыма.

З ленкутку выбухнуў і пракаціўся між палатак адрывісты сьмех. Яўхіменка падняў галаву.

— Ну, хлопцы, давайце пачнем сход. Выдзяляйце кандыдатаў у прэзыдыум.

І пасыпаліся прозьвішчы камсамольцаў.

— Досыць. Хай праходзяць цалкам,—нехта крыкнуў з аўдыторыі.

— Супроць нікога няма? запэўніў Гародкін.

Крык павольна заціхаў. Члены прэзыдыуму займалі свае месцы. У Яўхіменкі на ілбу выцягнуліся тры, ледзь прыкметныя разоркі. Ён, падняўшы са століка лісток паперы, сьпісаны да самага ніжэйшага радка і пачаў сваю невялічкую прамову, асобныя моманты з якой хлопцы запомнілі назаўсёды:—і праглядаючы вынікі першай задачы, мы маем дасягненьні, такі, немалыя. Гэта праўда. От к прыкладу, Астапчук Васіль выканаў задачу на выдатна. Таксама Васілёнак, Царыкаў, Пучкароў і многа другіх нашых камсамольцаў. Але пахваліцца, рэбята, сваёй работай мы ня можам. Дзе наша дапамога адстаючым? А камандаваньне і партыйная арганізацыя ад нас гэтага вымагаюць. Ды, наогул трэба мець на ўвазе, што толькі выканаўшы. дадзеную задачу мы зможам ісьці далей. Гэта для нас закон. І гэта галоўнае. Дык, от я прапаную з сёньнешняга дня нашым камсамольцам узяць індывідуальныя шэфствы над адстаючымі і выконваць усе задачы на выдатна. Я скончыў.

Старшыня сходу стукнуў алоўкам па стале і сказаў: якія ў каго будуць пытаньні?

— У мяне, але ня пытаньне, але сказаць хачу.

— Ну, валяй, Астапчук.

— Ог, вазьмі Антося Барука. Мы з яго нават пакеплівоем, ён старанны хлапец. вось. А стральба яму не ўдаецца, дык чаму ж яго не прымацаваць да лепшага стралка і не навучыць страляць.

— Правільна,—перасказаў і Яўхіменка.

— Ну, вядома, правільна,—гаварылі хлапцы з прэзыдыуму і некаторыя хлапцы з аудыторыі.

— Пытаньне ясна. Давайце прапановы,—крычалі хлопцы

— Больш ніхто ня будзе выказвацца?—пытаў старшыня сходу.

— Не, не-е-е-е,—пракацілася водгульлем.

— Значыць, спрэчкі спыняем.

У рэзалюцыю запісалі:

„Лепшыя байцы камсамольцы нашага ўзвода бяруць індывідуальнае шэфства над камсамольцамі і беспартыйнымі таварышамі, што адстаюць у стральбе. Царыкаў бярэ шэфства над Алейнікавым, Васілёнак над Абрамчуком, Рохлін над Філіпенкам і Астапчук Васіль бярэ шэфства над Антосем Баруком.

Выклікаць на сацыялістычнае спаборніцтва першы ўзвод нашага эскадрона“.

Камсамольская арганізацыя ўзялася за ўпартую работу па дапамозе таварышом. Царыкаў вучыў Алейнікава, Васілёнак Абрамчука. А Васіль Астапчук вучыў Антося Барука—гэтага стараннага і энэргічнага хлапца, з сваясаблівымі прыгодамі і звычкамі...

* * *

У Антося Барука была такая прывычка: калі пачне з кім-небудзь гаварыць абавязкова падкіне ўгару левую руку, потым ашчарэпіць трыма пальцамі ў рубашцы гузік, які заўжды быў выцерты аж да бляску, і трымаецца... Убачыўшы руку на гузіку Антось злуецца:

— Чэрці яе ведаюць, калі яна ўзьбіраецца на яго.

І як ні стараўся Антось выжыць гэтую прывычку—ня мог А выжыць яе неабходна было хаця і таму, што яна часта была аб'ектам для кпін. Ужо і прыпеўка ва ўзводзе была:

„...А ў Антося Барука
Ёсьць нэрвовая рука“.

І ўсе-ж лічылі сваім абавязкам пры спатканьні з Антосем прыпомніць гэту напеўку.

ВСЕВОЛОД РОМАНОВ

# ДОРОГИ

Впереди лежат дороги
И встают они, как быль.
Не одни прошли здесь ноги,
Вороша сухую пыль.

Едем все мы на маневры
И качаемся в седле,
Но поход наш здесь не первый,
Говорят дороги мне.

Через дикие пороги
С кровью в сердце они шли.
Мне знакомы те дороги,
Где буденновцы прошли.

И когда восток зарею
Разукрасил небосклон,
Наша конница волною
Била вражий эскадрон.

Обагрились панской кровью
Наши острые клинки.
С сердцем, полным острой болью,
Рассыпалися враги.

И проходит предо мною
Дней ушедших старина.
Если враг пойдет войною,
Мы отпор дадим всегда.

Пограничные уж цепи
Так границу стерегут,
Что враги да в наши сети
Рано-ль, поздно-ль попадут.

И лежат под летним жаром
Наши вольные поля.
Любим мы тебя недаром,
Наша милая земля.

ВСЕВОЛОД РОМАНОВ

# НА БОЕВОЙ ОПЕРАЦИИ

Начальник заставы просто сказал,
Крепко и ясно сказал он:
— Бродит банда по болотам и лесам,
цель—пробраться за наш кордон.

На сердце прибавилась сразу тревога—
Хитер и коварен проклятый враг!
Задача: закрыть на границе дороги,—
Чтобы пробраться не смог он никак.

И вот по дорогам, километры бросая,
Загорелыя лица—открытый взор.
Идут пограничники, неутомимо шагая,
Ставя чекистский дозор.

Вам не расскажет никто наверно,
Где наши ребята шли.
Мы в холод ночей проходили уверенно
По пояс в болото брели.

Граница, как нерв, напряженно взволнована.
Можно-ль з границай шутить?
Мысли одним обручем перекованы,
Бандитов туда не пустить.

Вдруг на заставе внезапно тревога.
Мгновенье... и застава пуста.
И миг вздорожал, зовут на подмогу
В болота, в трущебы, в леса.

Сжимается чекистов стальное кольцо.
Враг уже заперт в мышеловку.
Пусть пули свистят, но отряды бойцов
Прекрасно узнали бандитов сноровку.

И карты врагов еще раз перебиты.
И пусть это помнит негодник другой—
Убит атаман. Остальные бандиты
Взяты за горло чекистской рукой.

Проверим точно свои мы заряды,
И в памяти дни боевые свежи.
Бессонные ночи проводим в наряде
Мы, охраняя свои рубежи.

П. БУРАЧЭЎСКІ

# ЭПІЗОДЫ З ГІСТОРЫІ БАРАЦЬБЫ ЗА ПРАЛЕТАРСКУЮ ДЫКТАТУРУ НА БЕЛАРУСІ

БЕЛАРУСЬ да лютаўскай рэвалюцыі 1917 году была калёніяй царызму. Гэта надавала пэўныя свае асаблівасьці і рэвалюцыйнаму руху, рэвалюцыйнай барацьбе рабочай клясы з капіталізмам.

Пад кіраўніцтвам ленінскай камуністычнай партыі, рабочая кляса, на чале якой ішлі рабочыя асноўных пралетарскіх цэнтраў: Ленінграду, Масквы і інш., арганізаваўшы сілы, узброена выступіла ў гістарычныя дні Кастрычніка супроць буржуазіі, узяла ўладу ў свае рукі і павяла жорсткую барацьбу з контррэвалюцыйнымі сіламі, якія імкнуліся зьнішчыць маладую савецкую рэспубліку.

Удзельнікі імпэрыялістычнай вайны рабочыя, батракі, бяднейшыя сяляне эканамічна адсталай, разбуранай вайной і нацыянальна прыгнечанай Беларусі ішлі ў рады Чырвонай гвардыі і актыўна змагаліся на важнейшых вучастках барацьбы за ўтрыманьне і пашырэньне Кастрычніцкіх перамог пралетарыяту. Барацьба за пралетарскую дыктатуру на Беларусі праходзіла ў надзвычай цяжкіх умовах як па сваім характары, так і па зацяжнасьці.

Беларусь на працягу значнага часу была адным з тых важнейшых вучасткаў, дзе ішла жорсткая барацьба за Кастрычніцкія заваёвы, рашуча выкарчоўваліся якія-б там ні былі спробы контррэвалюцыі зьнішчыць савецкую ўладу.

У рэвалюцыйнай барацьбе на Беларусі, пры непасрэднай сувязі і сумесным правядзеньні гэтае барацьбы з пралетарыятам РСФСР, пад кіраўніцтвам ленінскай камуністычнай партыі, вырасьлі кадры бальшавіцкіх змагароў, якія забясьпе-

чылі заваяваньне пралетарскай дыктатуры. Гэтыя кадры цяпер кіруюць сацыялістычным будаўніцтвам на паасобных вучастках, зьнішчаючы супраціўленьне кулака і яго агентуры ў радох партыі, забясьпечваючы выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады, забясьпечваючы пабудову бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва.

Рэвалюцыйны рух на Беларусі, пад кіраўніцтвам бальшавікоў і з дапамогай расійскага пралетарыяту, узрастаў, пашыраўся і ператвараўся ў магутную сілу, якая ахапіла ня толькі рабочых, батракоў і бяднейшае сялянства акупаванай Беларусі, але і шырокія масы нямецкіх салдат.

Да выхаду з Беларусі нямецкіх акупантаў працоўнае насельніцтва знаходзілася ў надзвычай цяжкіх умовах, правоў як матэрыяльных, так і палітычных яно было пазбаўлена. Акупантамі імпэрыялістамі працоўнае насельніцтва было пазбаўлена нават мінімальных магчымасьцяй задаволіць патрэбы больш-менш чалавечага жыцьця. Да ўсяго гэтага „літасьцю“ акупантаў, на плечы працоўных мас был ўскладзены ўсялякія дадатковыя павіннасьці. Ня гледзячы на страшэнныя пакуты, працоўныя масы акупаванай Беларусі не радаваў і зварот расійскага імпэрыялізму—паноў-фабрыкантаў. Жаданьні, імкненьні працоўных мас Беларус былі накіраваны да таго, каб заваяваць і пабудаваць уладу рабочых і сялян, каб у корані зьнішчыць сыстэму капіталізму і разам з рабочай клясай, існаваўшай ужо ў РСФСР, стварыць чалавечыя ўмовы жыцьця. Гэтыя жаданьні і імкненьні выяўляліся ў рэвалюцыйнай барацьбе супроць акупантаў.

Бальшавікі, якія кіравалі гэтай барацьбой, былі ў глыбокім падпольлі, пры строгай канспірацыі. У гарадох і мястэчках, у буйнейшых сельскіх пунктах існавалі падпольныя партыйныя камітэты, якія яднала рэвалюцыйных рабочых, батракоў, сялян-беднякоў, служачых і саматужнікаў і кіравалі рэвалюцыйнай барацьбой працоўных мас. Як прыклад, возьмем Рагачоўскі падпольны камітэт пад кіраўніцтвам т. Рыскіна А. Б. Рагачоўскі падпольны камітэт прымаў актыўны ўдзел у арганізацыі барацьбы ў 1917 г. супроць белагвардзейшчыны з рэштак былой магілеўскай царскай знаці, а таксама ў 1918 г. супроць нямецкіх імпэрыялістычных акупантаў. Гэты камітэт ня толькі аб'яднаў мясцовых

рабочых, батракоў, беднякоў і кіраваў іх барацьбой, але ўцягнуў у гэту барацьбу і нямецкіх салдат, якія дапамагалі т. Рыскіну набываць зброю, неабходную для ўзбраеньня партызанскіх атрадаў.

Партызанскія атрады ўзьнікалі, арганізоўваліся аднача-сова з арганізацыяй рабочых і вясковых ячэек нашай партыі. Гэтыя атрады былі магутнай сілай у барацьбе супроць акупантаў.

Вось, што піша пра работу Рагачоўскага партыйнага камітэту т. Б—н:

„Да моманту рэвалюцыі ў Нямеччыне, арганізацыя была зусім падрыхтавана. Горад Рагачоў адным з першых быў пакінут немцамі і там адразу арганізаваўся рэўком. Тое-ж самае было па ўсіх буйных пунктах павету. Да моманту эвакуацыі Беларусі немцамі сярод салдат пачаўся разлад. Наша агітацыя сярод салдат была палегчана. Памятаю, што адна з адыходзячых нямецкіх частак увайшла ў Бабруйск з чырвонымі сьцягамі, на якіх быў надпіс, прыкладна такога зьместу:

„Нямецкія салдаты! нясеце рэвалюцыю ў Нямеччыну", а ўнізе гэтага сьцягу быў подпіс:

„Рагачоўскі камітэт камуністычнай партыі Літвы і Беларусі".

Гэта была па сутнасьці ўжо ўзброеная спартакаўская група, арганізаваная Рагачоўскім падпольным камітэтам бальшавікоў пад кіраўніцтвам т. Рыскіна.

Рэвалюцыйная барацьба працоўных мас акупаванай Беларусі была вялікай пагрозай для акупантаў, а разам з тым для ўсёй капіталістычнай сыстэмы. Таму ўлада акупантаў і ваеншчына прасьледвала ня толькі непасрэдных удзельнікаў рэвалюцыйнага руху, але і ўсіх тых, хто на погляд акупантаў мог такімі зьяўляцца. У паасобных найбольш буйных пунктах, акрамя перапоўненых былых турмаў, былі пабудаваны спэцыяльныя баракі. Баракі былі абведзены непралазнай калючай дротавай агароджай у некалькі радоў і ахоўваліся ўзмоцненымі вайсковымі караўламі. Гэтыя баракі, якія мелі назву „карантыну", на справе былі такімі-ж турмамі, і былі перапоўнены вялікай колькасьцю рабочых і сялян Беларусі.

У 1918 г. аўтару гэтых радкоў прышлося пабываць у такіх бараках-„карантынах“. Але вядома, не для карантыну, а сядзець у заключэньні, пад строгай аховай і сыстэматычнымі допытамі.

Пасьля адыходу нямецкіх акупацыйных войск, у лістападзе 1918 г. пачалі ствараца саветы і рэўкомы, якія ў шмат якіх мясцох былі цадрыхтаваны ў часе падпольля. Працоўныя Беларусі ўстанаўленьне савецкай улады сустрэлі з вялікім энтузіязмам і праяўлялі надзвычайную актыўнасьць у справе стварэньня яе органаў.

Мне, як інструктару, арганізатару ўлады выпадала на долю ў паасобных паселішчах быць першым прадстаўніком савецкай улады. Я быў сьведкаю тэй вялікай радасьці ва ўздыме актыўнасьці і энтузіязьме, якія выказвала працоўнае насельніцтва пры выбарах мясцовых органаў улады.

Там, дзе праходзіў фронт, дзе адбываліся бойкі, замест насельных пунктаў заставаліся акопы, бліндажы, вялізарныя ямы знарадных выбухаў. Працоўнае насельніцтва жыло тут ў зямлянках, харчавалася ўсялякімі сурагатамі. У зімовы час нам з труднасьцямі прыходзілася знаходзіць месца для правядзеньня сходаў насельніцтва. Аднак і ў такіх мясцох і ўмовах працоўнае насельніцтва з вялікай радасьцю сустракала савецкую ўладу, якую яно чакала, і ўсямерна дапамагала ў яе стварэньні. Падлеткі і старыя прыносілі і здавалі рэвальвэры, вінтоўкі і іншую зброю, якая рознымі спосабамі была здабыта ад акупантаў. Пасьля аднаго сходу, які скончыўся позьняй ноччу, і на якім быў выбран сельскі савет, адна бабулька прынесла і перадала мне цяжкі пакунак, які быў закручан у анучу. „Гэта ад аднаго нямецкага генэрала“, сказала яна. У гэтым пакунку былі: добры браўнінг і бінокль.

У другіх мясцох да мяне зварочвалася моладзь, частка з тых, што зьвярнуліся з палону, з просьбай запісаць у бальшавікі. Пасьля растлумачэньня ім задачы камуністычнай партыі і аб тым, хто зьяўляецца і можа быць яе членам, працоўная моладзь прасіла запісаць яе ў партыю, заяўляючы аб сваёй адданасьці і гатоўнасьці выканаць усе яе даручэньні і ісьці на абарону заваёў рабочых і сялян. Аднaчасова з першымі саветамі арганізаваліся і камячэйкі там, дзе іх ня было, і папаўняліся новымі членамі там, дзе яны ўжо існавалі.

Белапольскія паны пры дапамозе Антанты павялі на саветы ўзброены наступ. Рэўкомы і саветы вымушаны былі ствараць чырвонаармейскія атрады і адбіваць белагвардзейскія напады, дапамагаць часткам Чырвонай арміі разам з ёй абараняць заваёвы Кастрычніка.

У лютым 1919 г. мне прышлося пераехаць на фронт пад Вільню, куды былі падцягнуты і сканцэнтраваны значныя сілы белапалякаў, якія па сваёй колькасьці і ўзбраеньні мелі перавагу ў параўнаньні з часткамі Чырвонай арміі. Ня гледзячы на перавагу сіл ворага і яго шалёнае імкненьне разьбіць наш фронт, зьвярнуць капіталістычны лад, нашы чырвонаармейскія часьці абаранялі кожны вучастак фронту з такой упартасьцю, што ворагу прыходзілася займаць некаторыя нашы пазыцыі толькі пасьля доўгіх боек з вялізарнейшымі стратамі сваіх сіл, прычым асобныя нашы часьці, будучы акружаны і ня маючы магчымасьці адступаць, ня толькі не здаваліся белапалякам у палон, але з посьпехам выходзілі з цяжкага становішча, без асаблівых страт сваіх байцоў, а часамі нават з захопам белапольскіх палонных. Адзін з такіх выпадкаў быў з 145 стралковым палком. Абкружаны ворагам гэты полк не пайшоў прабіваць шлях адступленьня, а арганізавана рушыў у наступленьне, у тыл ворага і праз яго флянг, разьбіваючы разьезды, заставы і вартавыя аховы, прымусіў гэтым самым затрымаць наступ з боку ворага і заняў новыя пазыцыі. Прыкладную вытрыманасьць, ініцыятыўнасьць у кіраўніцтве і вядзеньні гэтай апэрацыі праявіў камандзір першага батальёну т. Рубо, які пасьля быў прызначан камандзірам палка і за баявыя заслугі ўзнагароджан ордэнам чырвонага сьцягу.

На асобных вучастках нашы часьці папаўняліся і ўзмацняліся рабочымі дружынамі і групамі рабочых з Менску, Гомелю і атрадамі асобага прызначэньня, якія прыбывалі з іншых мясцоў Беларусі (з арганізацый Дзісенскага, Вялейскага, Слуцкага і інш. паветаў).

Ня гледзячы на ўсямернае папаўненьне ўзбраеньняў белапалякаў і дапамогу, якую яны атрымлівалі ад капіталістычных краін, часьці нашай Чырвонай арміі адбівалі ворага і стойка затрымлівалі яго наступ, пераходзячы сыстэматычна ў контрнаступ.

Да восені 1919 г. белапалякам удалося прайсьці да рэк Беларусі і Заходняй Дзьвіны, на якіх далейшае наступленьне іх было затрымана.

Усё гэта патрабавала вялікай згуртаванасьці ўсіх пролетарскіх сіл і падрыхтоўкі да сур'ёзнай абароны і рашучага адпору азьвярэлым горагам саветаў.

БССР у значнай сваёй частцы засталася захопленай белапалякамі. Пралетарыят Беларусі арганізаваў і праводзіў рад баявых мерапрыемстваў, накіраваных для барацьбы з белапалякамі, за вызваленьне БССР.

У ліку ўсіх сродкаў і дзеяньняў у справе вызваленьня Беларусі ад белапалякаў і ўстанаўленьня пралетарскай дыктатуры на Беларусі немалаважную ролю адыграў партызанскі рух. Партызанскі рух зьяўляўся магутнай сілай і аказаў вялікую непасрэдную дапамогу Чырвонай арміі ў справе вызваленьня Беларусі ад белапалякаў. Неабходна часткова спыніцца на жыцьці і баявой рабоце чырвоных партызан, якія дзейнічалі супроць белапольскіх акупантаў на Беларусі.

У справе пабудовы ўлады і кіраўніцтва акупантамі белапалякамі было амаль усё цалкам успрынята ад царскіх верхаводаў. Усе чыноўнікі „Жэчы Паспалітай“ патрабавалі ад насельніцтва падпарадкаваньня і паслухмянасьці, і ўжывалі пры гэтым мэтады допытаў і зьдзекаў, якія нагадвалі сярэднявечча. Асабліва яны праявілі сябе па вышукваньні, вылаўліваньні і зьнішчэньні камуністаў, чырвоных партызан, рэволюцыйна настроеных рабочых і сялян і ўсіх тых, хто толькі мог ня толькі садзейнічаць, але нават мысьліць не па нораву акупантаў. Працавала жандармэрыя, дэфэнзыва, якая спалучала ў сабе ўсе традыцыі правакацыі і тэрору былой царскай ахранкі. Яна нават была больш здольна за былую царскую ахранку. У дэфэнзыве працавалі ня толькі чыны былой царскай ахранкі, але і новыя польскія героі, якія выявілі сябе на гэтым „фронце“. Тут былі і здольныя аўстрыйскія жандары з Галіцыі і нямецкія з Пазнані. Хто хоць ня ўмеў, а павінен быў размаўляць па-польску,—інакш ён быў-бы западозраны ў „бальшавізьме“. Пры захопе якога-небудзь гораду, або мястэчка апрача ўсякага роду гвалтаў і зьдзекаў жандары адразалі ў яўрэяў бароды.

Польская ваеншчына ўжывала гвалты шырокіх разьмераў. Культурнае жыцьцё польскага салдата „натхнялася“ рэлігійным дурманам і побач з гэтым насычалася распуствам і пахабствам.

Быў яшчэ рад новаўвядзеньняў, накіраваных на сацыяльнае, нацыянальнае прыгнечаньне працоўных, але пра іх варта толькі прыгадаць, параўнсўваючы з тымі гвалтамі і зьдзекамі, сацыяльна-нацыянальным прыгнечаньнем, якое пануе і па сёнешні дзень у Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне. Адтуль, праз друк працоўныя ўсяго сьвету даведваюцца пра той бесьперапынны разгром усіх грамадзкіх рабоча-сялянскіх арганізацый (разгром беларускай „Грамады“, разгром таварыства беларускай школы і інш. арганізацый працоўных Зах. Беларусі і Зах. Украіны). Вядома таксама аб тым, што ў польскіх турмах сядзяць тысячы рабочых і сялян-беларусоў, украінцаў, палякаў, яўрэяў, над якімі ўтвараюцца жахлівыя гвалты і зьдзекі.

У надзвычай цяжкіх умовах чырвоным партызанам прыходзілася весьці сваю барацьбу. Хвойныя лясы Беларусі, перасечаныя рэкамі, рэчкамі, дарогамі, падзеленыя ў адных мясцох палянкамі, у другіх—лугамі і балотамі для чырвоных партызан былі сховай, жыльлём і штаб-кватэрамі. У іх праводзілася грамадзка-палітычная і культурная работа. Для чырвоных партызан, акрамя лясоў, у асобных выпадках былі даступны ня толькі асобныя пасёлкі і вёскі, а і гарады, прадпрыемствы, тэлефонная і тэлеграфная сувязь, чыгуначны і аўтамабільны транспарт. Чырвоныя партызаны зьяўляліся ня толькі жыхарамі бліжэйшых вёсак і пасёлішч, але і жыхарамі гарадоў, памешчыцкіх маёнткаў, арміі. Кантынгент чырвоных партызан быў самы разнастайны. У партызанскіх атрадах былі: беларусы, рускія, яўрэі, палякі; былі рабочыя, батракі, сяляне, служачыя, розныя чыны арміі, камуністы, беспартыйныя; з ніжэйшай, сярэдняй і вышэйшай адукацыяй.

Гэты разнастайны склад чырвоных партызан быў паміж сабой згуртаваны, дружны. Чырвоных партызан аб'яднала клясавая сьвядомасьць, ідэі вызваленьня. Кіраўніцтвам для чырвоных партызан зьяўлялася баявая праграма камуністычнай партыі бальшавікоў, якая ўказвала сапраўдныя шляхі і сродкі палітычнага і эканамічнага вызваленьня

рабочых і усіх працоўных гораду і вёскі ад акупантаў, эксплёатаатараў. Чырвоных партызан зьбівалі, каралі сьмерцю, калі яны пападаліся, а для таго, каб іх вылавіць цалкам і зусім зьнішчыць, прымаліся і праводзіліся акупантамі ўсе магчымыя захады і сродкі.

Атрады чырвоных партызан ня гледзячы на прасьледваньні і жорсткі тэрор, ня гледзячы на забойствы і здрады, ня спынялі сваёй барацьбы. Яны вырасталі ў магутныя і баявыя сілы і штодзённа атрымлівалі моцныя папаўненьні. Чырвоны партызан знаходзіў прытулак і абарону ў горадзе, вёсцы, мястэчку, паселішчы ня толькі ў тым выпадку, калі яго ведалі асабіста як суседа, або знаё мага, але і ў тым выпадку калі ён упяршыню сустракаўся ці прыходзіў разам са знаёмымі, ці нават бяз іх.

Сярод чырвоных партызан раёнаў блізкіх да Менску знаходзіліся жыхары ня толькі былога Менскага, Ігуменскага, Бабруйскага і Слуцкага паветаў, але і з больш далёкіх паветаў Беларусі, як Вілейскага, Дзісенскага, Навагрудзкага ды іншых. Незалежна ад таго, хто адкуль зьяўляўся, ён у аднолькавай меры быў акружан увагай, сымпатыяй і абаронай таго мясцовага працоўнага насельніцтва, дзе ён знаходзіўся.

У ваколіцах Менску, у раёнах суседніх вёсак і лясоў кіраваў партызанскімі атрадамі беларускі ўраджэнец з раёнаў Мядзельскіх азёр, Вілейскага павету, т. Шаранговіч.

За кароткі час свайго прабываньня ён атрымаў ня толькі магчымасьць пражываць і мець абарону ў гэтых раёнах, але і зьявіўся арганізатарам і кіраўніком партызанскага руху на вучастку Барысаў—Баранавічы, які быў акупаваны белапалякамі. Яго імя зьяўлялася ня толькі аўтарытэтам, але вялікай дзейнічаючай сілай, якая арганізоўвала, згуртоўвала і надавала бадзёрасьці і баявой адвагі і энэргіі ва ўсіх партызанскіх атрадах акупаванай Беларусі.

Пакажам на асобныя моманты жыцьця і баявой работы чырвоных партызан у зімовы час 1919—1920 г.г. У гэты час актыўныя апэрацыі праводзіць было вельмі цяжка. З вясны 1920 г. белапалякі пачалі ўзмоцненыя вайсковы наступ супроць Чырвонай арміі па ўсім фронце. У напрамку да Барысава і Бабруйску ішлі нагружаныя цягнікі з танкамі артылерыяй, знарадамі, кавалерыяй, новымі пяхотным

часткамі і інш. На паасобных вучастках белапалякі пачалі прарываць фронт і весьці наступленьне. Асабліва белапалякі ўцяшаліся сваімі „подвигами“ на Ўкраіне ў сувязі з тым, што ім даволі шпарка ўдалося заняць Кіеў. Чырвоныя партызаны, на чале якіх стаяў т. Шаранговіч. не маглі спакойна адносіцца да ўсіх гэтых зьяў. Узрастаў рэвалюцыйны рух, нездаваленьне сярод рабочых, частка якіх ужо лічылася чырвонымі партызанамі і мела сувязь з т. Шаранговічам. Асобныя чырвоныя партызаны знаходзіліся ў гарадох, мястэчках, вёсках, маёнтках і паселішчах, чакалі і заўсёды былі гатовы да дзейнічаньня па загаду кіраўніцтва.

Становішча патрабавала баявых дзеяньняў. Неабходна была арганізаванасьць, вытрыманасьць, асьцярожнасьць, інакш можна было загубіць усё і ўсіх. Тав. Шаранговіч з асаблівай энэргіяй і адвагай на працягу адных сутак наведаў гор. Менск, вёскі Гатава, Кайкава, маёнтак Ігнацічы, мястэчка Самахвалавічы,—дзе асабіста сустракаўся з падрыхтаванымі ўжо чырвонымі партызанамі. Разьлічыўшы і ўзважыўшы ўсе моманты і папярэдня ведаючы ўсе абставіны, ён вызначыў плян дзеяньня. Хутка пачалі канцэнтравацца і разьмяркоўвацца па асобных вучастках баявыя атрады чырвоных партызан. Кожны атрад і асобныя партызаны мелі розныя заданьні. Рабілася ўсё тое, каб перашкодзіць, прыпыніць, спаралізаваць дзеяньні акупантаў. У адных мясцох партызанамі абстрэльваліся і спускаліся цягнікі пад адкос, у другіх разрывалася тэлефонная і тэлеграфная сувязь, у трэціх мясцох спыняўся ўсякі рух з аднаго пункту ў другі і г. д.

Аб дзейнічаньнях і намерах акупантаў для чырвоных партызан, тым больш для т. Шаранговіча, было вядома, Апэрацыі чырвоных партызан выклікалі новую хвалю тэрору з боку мясцовай улады акупантаў і ваеншчыны. Пачалі дзейнічаць карныя экспэдыцыі. Карныя атрады распраўляліся з вёскамі, рабілі вялікія аблавы па лясох. Але чырвоных партызан было злавіць ня так ужо лёгка. Пачаліся ўзмоцненыя расстрэлы падазроных і нават бязьвінных. Для таго, каб знайсьці сьляды чырвоных партызан і іх вылавіць, рабіліся катаваньні і зьдзекі. Займаючы якую-небудзь вёску, карныя атрады выстрайвалі ў рад мясцовых жыхароў і пагражаючы расстрэлам кожнаму пятаму ці дзесятаму чала-

веку, патрабавалі выдачы партызан. Бацькоў партызан карныя атрады прымушалі разьбіраць свае хаты да апошняга бярвеньня, прымушалі бацькоў і сыноў пляваць адзін другому ў твар і біць адзін аднаго. Карныя атрады практыкавалі рад іншых зьвярыных, нечалавечых зьдзекаў, даводзілі свае ахвяры да інваліднасьці і сьмерці. У ліку такіх ахвяр памёр селянін з вёскі Кайкава—Чумак Цімох, бацька чырвонага партызана Чумака Кузьмы.

У выніку асобных вышукаў і масавых аблаў некаторыя чырвоныя партызаны пападаліся ў палон, але яны лічылі за лепшае памерці сьмерцю герояў, чым папасьці ў рукі катаў дэфэнзывы. У ліку такіх памёр чырвоны партызан Маслыка, які ня меў магчымасьці выратавацца, ня здаўся, а застрэліў сябе.

Асобнай увагай для акупантаў зьяўляўся т. Шаранговіч. Пасьля бесьперапынных вышукаў і раду ўзброеных аблаў, засад, на працягу доўгага пэрыяду ва ўсіх мясцох, акупантам ўдалося раптоўна захапіць т. Шаранговіча.

Тав. Шаранговіча прывезьлі ў Менск і яму пагражала кара сьмерці, аднак Шаранговіча прыгаварылі да 20 год катаргі і выслалі ў Кракаў.

Зразумела, што гэта не магло не адбіцца на настроях і дзейнасьці чырвоных партызан, асабліва мясцовага працоўнага насельніцтва. У некаторай ступені стварылася часовая нейкая разгубленасьць.

Маючы вопыт партызанскай барацьбы і ведаючы контрдзеяньні з боку акупантаў, чырвоныя партызаны групамі ў паасобных мясцох не здавалі пазыцый, а працягвалі ўпартую барацьбу з акупантамі.

Чырвоная армія ў гэты час спыніла наступ на белапалякаў і перайшла ў контрнаступ і, прарваўшы фронт, зайшла ў тыл ворага ад Полацку ў напрамку да Вілейкі, на кілёмэтраў 90—100 і ад мястэчак Бярэзіна і Пагоста ў напрамку да Ігумена—на кілёмэтраў 60, а пасьля гэтага нанесла руйнуючы ўдар і павяла нясупыннае наступленьне па ўсім фронце.

Чырвоныя партызаны таксама пачынаюць больш актыўна дзейнічаць. У асобных мясцох яны абстрэльваюць ворага, наносячы ўдары па адстаючых яго асобных частках, захапляючы інвэнтар і абозы, вызваляючы палонных чырвонаар-

мейцаў. Яны ўключаюцца ў рады праходзячых часьцей. і працягваюць барацьбу з ворагам, як лепшыя байцы рабоча-сялянскай Чырвонай арміі.

Партызанскі рух на Беларусі, які адыграў вялікую ролю ў справе барацьбы за краіну пралетарскай дыктатуры, у непасрэднай барацьбе ў часе грамадзянскай вайны і вызваленьня Беларусі ад белапалякаў, зьяўляўся толькі аднэй часткай барацьбы рабочай клясы. Разгортваньне партызанскага руху, яго рост і сіла зьявіліся вынікам агульнага рэволюцыйнага руху і барацьбы рабочай клясы пад выпрабаваным кіраўніцтвам ленінскай камуністычнай партыі. На ўсім працягу рэвалюцыйнай барацьбы на Беларусі, у часе імпэрыялістычнай вайны, у часе нямецкай і белапольскай акупацый, незалежна ад абставін, ня гледзячы на жахлівы тэрор, існавалі і расьлі арганізацыі кампартыі і рэвалюцыйныя прафсаюзы. Усё гэта не давала спакою ўладзе буржуазіі і апошняя прымала ўсякія меры да таго, каб задушыць рэвалюцыйны рух, вылавіць і зьнішчыць яго зачыншчыкаў і кіраўнікоў—камуністаў. Белапалякі даходзілі са сваімі дзеяньнямі ў гэтай барацьбе да масавага фізычнага зьнішчэньня рэвалюцыйных барацьбітоў. Так, спачуваючымі ім, і нават проста падазронымі былі перапоўнены турмы, памяшканьні дэфэнзывы і паліцыі, і амаль штодзённа ў тых ці іншых мясцох, асабліва вясной 1920 г., абвяшчаліся прысуды да кары сьмерцю.

Абвесткі для распаўсюджваньня друкаваліся ў друкарні і былі ў асноўным такога зьместу:

„Салдаты (пералічваліся з указаньнем прозьвішча і імя), цывільныя (таксама пералічваліся), пастановай палявога суду камандзіра акруговага этапу Мінска-літоўскага, дню (указвалася дата). 1920 г. за здраду і змову супроць войска польскага прыгаворан да кары сьмерцю праз расстрэл (указвалася, дзе і калі прыгавор быў выканан і за гэтым быў працяг абвесткі). Пастановай таго-ж суду за гэту самую віну прыгавораны да кары цяжкой турмы на 10 год салдаты (пералічваліся), цывільныя (пералічваліся)". Далей пісалася: „за тое што ведаў аб гэтай змове і здрадзе і не паведаміў свайго начальніка" (пералічвалася, хто на які тэрмін цяжкай турмы прыгаворан), і ў апошнім пункце такой абвесткі зьмяшчалася: „за тое, што схавалі салдацкія

карабіны без дазволу ўлады прыгавораны гэтым жа судом (указвалася хто і на які тэрмін)". Падпісваў абвесткі ў большасьці камандзір акруговага этапу Шэмэт. Аднак, усё гэта не спыняла, а пашырала рэвалюцыйны рух і ўключала ў рады сапраўдных барацьбітоў за пралетарскую перамогу новых удзельнікаў. Ня гледзячы на ўсямерную хлусьню, якую буржуазія і сацыял-лёкаі шырока распаўсюджвалі ў адносіне камуністаў, шырокія пралетарскія масы ня толькі не аддаляліся ад камуністычнай партыі, а, наадварот, зьбліжаліся з кампартыяй і ішлі за ёй, як сапраўдным, пасьлядоўным, выпрабаваным кіраўніком рабочай клясы, якая кіравала барацьбой за вызваленьне працоўных ад ярма капіталізму, за пралетарскую перамогу, за ўладу рабочых і сялян.

Пасьля вызваленьня БССР ад белапалякаў і сканчэньня вайны контррэвалюцыя не супакоілася і ня спыніла сваёй барацьбы, імкнучыся зьнішчыць уладу саветаў. У канцы 1920 г. і ў пачатку 1921 г. гэта барацьба на Беларусі праявілася ў арганізацыі ўзброеных банд для барацьбы з саветамі, у наладжваньні бесьперапынных бандыцкіх наскокаў. Вырэзваліся і зьнішчаліся цэлыя сем'і працоўных, забіваліся паасобныя работнікі, паралізавалася ў асобных глухіх, больш наступных для бандытаў мясцох, нармальная работа і жыцьцё. Асабліва праяўлялі сябе ў БССР банды Булак-Балаховіча, Паўлоўскага, Моніча і інш. бандытаў. Бандытызм на Беларусі меў сувязь з белагвардзейшчынай і іх прыхільнікамі і абаронцамі—капіталістычнымі краінамі, якія ім ўсямерна дапамагалі.

Асобныя бандыты прабавалі пралезьці рознымі шляхамі ў органы савецкай улады і нават у рады кампартыі з тым, каб скарыстоўваньнем свайго становішча, здрадніцкай работай дасягнуць максымальных вынікаў у сваёй шкодніцкай бандыцкай рабоце, разьлічваючы на перамогу і зьнішчэньне ўлады Саветаў. З ліку гэтых дзеячоў і натхніцеляў бандытаў у БССР быў вядомы Жылінскі. Аднак і гэтага бандыта партыйная арганізацыя і органы ВЧК выкрылі, як здрадніка і бандыта. Нашы атрады асобнага прызначэньня і вайсковыя часьці, пры актыўнай дапамозе мясцовага працоўнага насельніцтва, прымусілі банды спыніць свае дзеяньні, вылавілі іх дзеячоў і ўдзельнікаў, якія не пасьпелі

ўцячы за мяжу пад абарону сваіх прыхільнікаў, а такія бандыты, як Жылінскі і яму паадобныя былі пакараны пралетарскім судом па заслугах.

Пасьля таго, калі Кастрычніцкія заваёвы аказаліся недаступнымі для пасягацельстваў белапольскіх бандыцкіх зграй контррэвалюцыі, улада саветаў замацавалася. І ва ўмовах пралетарскай дыктатуры, на аднэй шостай частцы зямной кулі, рабочая кляса пад кіраўніцтвам ленінскай комуністычнай партыі пачала разьвіваць народную гаспадарку і культуру на новых сацыялістычных шляхох. Гісторыя барацьбы на франтох сацыялістычнага будаўніцтва таксама мае багата момантаў гераічнай барацьбы пралетарыяту на чале з камуністычнай партыяй.

Пасьля вызваленьня Беларусі ад белапалякаў і ад ўсіх белагвардзейскіх банд з савецкай тэрыторыі, чырвоныя партызаны ўключыліся і прымаюць удзел ва ўсіх галінах будаўніцтва і сацыялістычнага наступу, выконваючы разнастайную работу, працуючы на розных вучастках сацыялістычнага будаўніцтва.

Тав. Шаранговіч у 1922 г. быў вызвален у парадку абмену. Цяпер т. Шаранговіч зьяўляецца сакратаром Цэнтральнага камітэту Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі. Усе чырвоныя партызаны вядуць актыўную, энэргічную работу ў розных мясцох СССР і БССР, з такой жа актыўнасьцю і энэргіяй яны заўсёды гатовы стаць узброенымі байцамі на абарону краіны пралетарскай дыктатуры, якая будуе бяскласавае сацыялістычнае грамадзтва.

Л. БЭНДЭ.

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА ДА 15-й ГАДАВІНЫ КАСТРЫЧНІКА*)

## II. Некалькі слоў пра крытыку.

Таварышы, якія тут выступалі, скардзяцца, што дрэнна з крытыкай. Мы не стварылі яшчэ такой літаратурнай крытыкі, якая была-б крытыкай у поўным сэнсе гэтага слова, якая-б аказвала дапамогу пісьменьнікам, выходзячы з канкрэтных задач, пастаўленых партыяй перад літаратурай, якая-б арыентавала савецкую грамадзкасьць у справах мастацкае творчасьці.

Я ўжо казаў, што наша крытыка дапушчала шмат істотных, невыбачальных памылак у адносінах да савецкіх пісьменьнікаў. Аднак, няправільна было-б гаварыць, што спадчына ў галіне крытыкі, якую атрымаў Аргкамітэт ад Беларускай асацыяцыі, зьяўляецца толькі адмоўнай. У актыве нашай крытыкі шмат дадатнага, шмат таго, што і для далейшага разьвіцьця нашай літаратурнай крытыкі зьяўляецца фундамантам, на якім мы будзем у далейшым ствараць сапраўдную літаратурна-мастацкую крытыку. Аднак і пасьля пастановы ЦК партыі там-сям былі крытычныя выступленьні ў проста супроцьлеглым духу і сэнсе пастановы ЦК. Найбольш характэрныя выступленьні ў часопісы „Полымя Рэвалюцыі“ і ў газэце „Зьвязда“—у апошняй супроць пачынаючага паэты Шапавалава. Крытыкі так крытыкавалі маладога поэта, што адначасова абвінавачвалі яго ў фармалізьме—гэта за тое, што ён, быццам, ня шукае за словам сэнсу,—у трацкізьме, у плагіяце і г. д. Тон гэтай крытыкі зусім не ўласьцівы тону, традыцыям бальшавіцкага друку.

Мы маем за апошні час выступленьні ў крытыцы выразна тэндэнцыйнага характару. Я маю на ўвазе крытычнае выступленьне Сядуры супроць зборніка беларускіх пісьменьнікаў, выданага ў Маскве, дзе аўтар ухітрыўся

*) Працяг, пачатак глядзі ў № 3.

крыпісаць раду пісьменьнікаў і крытыкаў зусім супроцьлеглае таму, што яны пішуць і што яны думалі. Ёсьць яшчэ такога роду крытыка, яна яшчэ ня зьнішчана і Аргкамітэт праявіў недастаткова актыўнасьці ў барацьбе супроць такой вульгарызатарскай крытыкі, якая часам зьяўляецца там-сям на старонках асобных часопісаў ці газэт і нават у такой аўтарытэтнай газэце, як цэнтральны орган нашай партыі—„Зьвязда“. Трэба сказаць, што ў сувязі з абвастрэньнем клясавай барацьбы мы маем і ажыўленьне зьяўленьняў такога парадку, як вялікадзяржаўны шавінізм, ажыўленьне беларускага нацыяналізму, які імкнецца прарвацца ізноў-такі праз літаратуру, праз крытыку.

Пра адносіны да беларускай літаратуры з боку Гіхл‘а. Яны вядомы. Гэтыя адносіны не стымулююць імкненьня нашых пісьменьнікаў выйсьці за межы свае рэспублікі, перамагчы тую правінцыяльную абмежаванасьць, якая яшчэ на жаль ня зжыта поўнасьцю ў нашай літаратуры.

Я маю на ўвазе некалькі фактаў. Пра пераклад на рускую мову твораў беларускіх пісьменьнікаў у нас ідзе гутарка ўжо некалькі год. Шмат год мы гаворым пра гэта, а між тым, справа ад гэтага не пасунулася ўперад. За апошнія два гады адна толькі кніга т. Александровіча пераведзена на рускую мову, і пры гэтым пераклад і работа над гэтай кнігай працягвалася больш за два гады.

Аповесьць Галавача „Спалох на загонах“—вышла ў нас другім выданьнем. Гэта аповесьць, якая атрымала ацэнку як твор, што ўздымае на новую, больш высокую ступень беларускую літаратуру, да гэтага часу ня выдана на рускай мове. Чаму?—Першае выданьне рэдактару Гіхл у чымасьці не спадабалася. Пакуль ён меркаваў, у нас першае выданьне разышлося; пісьменьнік падрыхтаваў другое выданьне, зрабіў значныя зьмены, дадаткі і паслаў яго ў Гіхл. Нядаўна мы атрымалі ліст ад т. Жамчужынай прыкладна такога зьместу: „Тав. Галавач, пазнаёміліся з вашым другім выданьнем. Яно значна лепш за першае. Аднак, калі вы зробіце некаторыя папраўкі і ўвядзеце партыйную ячэйку ў вёсцы, мы зможам яго надрукаваць“.

У творы Галавача адбіваюцца працэсы калектывізацыі, а вясковая ячэйка ў яго не паказана. Вось і прапануецца ўвесьці ячэйку—тады твор можа быць пераведзены на рускую мову.

Такія-ж фокусы Гіхл выробляе і ў адносінах да т. Лынькова і да другіх выдатных пісьменьнікаў Савецкай Беларусі, якія заслужылі таго, каб іх чытаў і рускі чытач і чытач іншых нацыянальнасьцяй.

За апошні час наглядаецца ажыўленьне і нацыяналістычных тэндэнцый, прычым надзвычай тонкае, надзвычай хітрае. Гэтыя тэндэнцыі ідуць зараз і актывізуюцца ў тым напрамку, каб, па-першае, ахаяць тую работу, якая праведзена нашай партыяй па барацьбе з беларускім нацыяналізмам, каб усялякімі спосабамі рэабілітаваць контррэвалюцыйны нацыянал-дэмакратызм, каб часам нават хаваючыся пад маску „барацьбы“ супроць вялікадзяржаўнага шавінізму працягнуць нацыяналістычную, нацыянал-дэмакратычную кантрабанду.

Я маю на ўвазе і такога роду выступленьні, як ахайваньне, аплёўваньне беларускай савецкай літаратуры з моцным акцэнтам на карысьць старой, дарэвалюцыйнай літаратуры. Так, адзін з крытыкаў (Сідарэнка), кажучы пра старога пісьменьніка, паказваючы на яго вялікі талент, на яго вялікія мастацкія дасягненьні, абагульняе: „мы вельмі шмат разважалі аб стварэньні такой літаратуры (г. зн. дзейнай літаратуры, як старая, Л. Б.), спрачаемся, ламаем пер'і, фігуруем на старонках ганарарных ведамасьцяй, мятусімся каля вакон выдавецкіх кас; „прэзрыцельна фыркаем“ па адрасе нашых папярэднікаў і тымчасам канкрэтна вельмі мала чаго робім для таго, каб узбагаціць культуру і г. д.“

Нельга-ж зараз праз савецкі друк адкрыта ахайваць савецкую літаратуру, для гэтага трэба маскавацца. І Сідарэнка маскуецца ў адным месцы за „мы“, у другім „некаторыя нашы“ і г. д. Вось яго характарыстыка савецкіх паэтаў:

„Як-бы ня кічыліся некаторыя нашы рыфмачы сваёй жыдка забеленай пад халтурны бруд вытрыманасьцю, ды ім нечым супроцьставіць свае ўбогія вершы без разбору ўсяму старому“... і г. д.

Калі ўзяць артыкул Сідарэнкі ў цэлым, у якім ён не знаходзіць нічога дадатнага ў беларускай савецкай літаратуры, дык яго выказваньні маюць на мэце не асобных літаратурных няўдак, а ўсю савецкую літаратуру.

Артыкул Сідарэнкі як і нацыяналістычны панігірык Сымона Баранавых (зьмешчаны ў нумары 17 газэты „Літаратура і мастацтва") ёсьць нішто іншае, як спроба даць рэванш, як спроба ачарніць, ахаяць барацьбу нашай партыі супроць нацыянал-дэмакратызму, як спроба рэабілітацыі нацыянал-дэмакратызму.

Побач з гэтымі варожымі вылазкамі, у тым-жа нумары 17-м газэты „ЛіМ" і потым у нумары 3-м „Полымя рэвалюцыі" надрукован артыкул Кучара з яўна апартуністычнымі ўстаноўкамі, якія льлюць ваду на млын новых клясава-варожых нацыянал-дэмакратычных вылазак.

Побач з рэцыдывамі адмоўных бакоў старой белаппаўскай крытыкі, ёсьць з боку некаторых нашых таварышоў зусім няправільнае разуменьне сэнсу пастановы ЦК аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый.

Некаторыя нашы таварышы—камуністы і камсамольцы—зразумелі так пастанову ЦК, што неабходнасьць уважлівых, беражлівых, таварыскіх адносін да савецкага пісьменьніка, што садзейнасьць савецкаму пісьменьніку быццам-бы зьнімае задачу барацьбы супроць буржуазна-кулацкіх уплываў, што ліквідацыяй БелАПП'у быццам-бы рэабілітуецца, амністуецца ня нашае, варожае ў мінулай творчасьці раду пісьменьнікаў. Адсюль у некаторых таварышоў гнілы лібэралізм да клясава-варожых вылазак, прымірэнчыя адносіны да актывізацыі нацыянал-дэмакратычных вылазак.

Змагаючыся супроць рэцыдываў зьяжджацельскай крытыкі, супроць вульгарызатарства, трэба ўзмацніць пільнасьць і барацьбу супроць буржуазных вылазак, супроць буржуазнага ўплыву на савецкую літаратуру і разам з тым узмацніць барацьбу з прымірэнцтвам да клясава-варожай ідэалёгіі.

За 15 год савецкая літаратура дабілася вялізарных посьпехаў. Грунтуючыся на папярэдніх посьпехах, пад кіраўніцтвам ленінскай партыі, савецкая літаратура пераможна ідзе да новых сусьветна-гістарычных заваёў.

В. Н.

# Гельдэрс „Паветраная вайна 1936 г.“

**Выд. В. В. Беларусі 1932 г., цана 1 руб. 50 кап.**

Дзяржаўнае ваеннае выдавецтва Беларусі выдала кніжку нямецкага маёра Гельдэрса „Паветраная вайна 1936 г.“ (зруйнаваньне Парыжу). Кніжка Гельдэрса цікава ня толькі для спэцыялістаў авіяцыі, яна цікава і для кожнага чырвонаармейца, для кожнага працоўнага Савецкага саюзу. Папулярная форма (раман) робіць яе даступнай для шырокіх чытацкіх колаў. Яна цікава з таго боку, дзе аўтар дае ў вобразна-нагляднай форме бой паветранага флёту, бой паміж ангельскай і францускай авіяцыяй. Гэтыя малюнкі, бадай, самыя каштоўныя ва ўсім рамане Гельдэрса. Вобраз паветранага бою ангельскіх экскадрыльляў з францускай авіяцыяй зьяўляецца, бадай што, аднэй у сусьветнай літаратуры спробай даць агульны малюнак новых тактычных прыёмаў паветранай вайны, над пытаньнямі якой працуюць зараз імпэрыялістычныя стратэгія і тактыка.

Ня гледзячы на тое, што Гельдэрс, пішучы раман, забягае ўперад, апісвае паветраную вайну 1936 г., старонкі яго кніжкі дыхаюць цьвярозасьцю, суровай рэальнасьцю, якую ўжо нясе сучасная авіяцыя, пазбаўлены фантазіі. Гельдэрс, як выяўляецца з яго раману, гарачы прыхільнік тых апэрацыйна-тэхнічных поглядаў, што авія-паветраны флёт павінен зьяўляцца зусім самастойным, незалежным ад іншых родаў войск. Такія погляды шырока распаўсюджаны зараз ва ўсіх буржуазных арміях.

Для таго, каб пераканаць свайго чытача ў праваце яго поглядаў,— ён паказвае выключныя посьпехі асобнага паветранага флёту пад кіраўніцтвам палкоўніка і выдатнага генэрала Брэнклея, паражэньне францускай авіяцыі і нікчэмнасьць ангельскай вайсковай авіяцыі, пабудаванай па сучасных прынцыпах. Гэтыя моманты заслугоўваюць крытычнай увагі нашага чытача.

Раз' яднанай тактыцы дзеяньня францускай і ангельскай вайсковай авіяцыі, Гельдэрс проціпастаўляе малюнкі згрупаванай тактыкі генэрала Брэклея, дзякуючы якой ангельскі паветраны флёт ня толькі зруйнаваў Парыж, ня толькі зьнішчыў францускую авіяцыю, але і вырашыў лёс вайны на карысьць Францыі.

Тактычныя погляды Гельдэрса, увасобленыя ў вобразе дзеяньняў і развіжаньняў Брэклея, заслугоўваюць уважлівага вывучэньня і крытыкі з боку спэцыялістаў. Яны заслугоўваюць і таго, каб кожны баец Чырвонай арміі з імі пазнаёміўся. Ня трацяць цікавасьці і другія моманты з раману Гельдэрса. Імпэрыялістам, аматарам і падпальшчыкам новых войн таксама становіцца ясна, што новая імпэрыялістычная вайна няўхільна прыдзе да новых выбухаў рабочых паўстаньняў. Гельдэрс сваім раманам як бы хоча папярэдзіць аб гэтым імпэрыялістаў, як-бы дае ім парады аб неабходнасьці

сваячасовага „заспакаеньня“ тылу, Момант гэты мае на мэце наіўны і худасочны малюнак, ці правільней, штрыхі паўстаньня камуністаў у Парыжы.

Гельдэрсы, рыхтуючы новую сусьветную бойню, ня могуць ня лічыцца з такім фактам, як рабочая кляса, як камуністычная партыя. Той факт, што Гельдэрс не абышоў рабочых паўстаньняў (хоць толькі ў Парыжы) сьведчыць, што вораг прымушан лічыцца з сілай нашых брацкіх кампартый, з сілай рабочай клясы.

Гэтая-ж баязьлівасьць адчуваецца і там, дзе Гельдэрс у канцы сваёй кніжкі, паказваючы капітуляцыю Францыі, якой прышлося весьці барацьбу і з вонкавым і ўнутраным ворагам, гаворыць:

„На армію і флёт нельга больш спадзявацца. Навошта патрэбен увесь складаны ваенны мэханізм, танкі, падводныя лодкі, лінейныя караблі, цяжкія гарматы, калі здраджваюць людзі“. У гэтым выпукляецца страх сусьветнай буржуазіі перад яго-ж выклІканымі сіламі; у гэтым выяўляецца яе пэрспэктыва. Але Гельдэрсы даюць выхад, раяць стварыць паветраны флёт дрэдноўтаў з надзейнымі сваімі людзьмі. Наўрад ці зьявіцца гэта рашаючым выхадам. З гэтага боку кніжка Гельдэрса цікавая, хоць гэты бок найбольш наіўны.

Нашаму чытачу кніжка Гельдэрса дапаможа ўявіць некаторыя бакі, некаторыя „таемнасьці“ падрыхтоўкі новых імпэрыялістычных войн, асабліва гэтыя месцы кніжкі цікавы дзе аўтар злосна настроен супроць Францыі, выбалтвае праўду аб імпэрыялістычных інтарэсах Францыі, а часткова Англіі ў калёніях, у дамініёнах.

Гэта кніжка пакажа нашаму чытачу, на каго яшчэ спрабуе імпэрыялізм абаперціся ў сваіх агідных і крывавых намерах. Гаворачы аб паўстаньні рабочага Парыжу, Гельдэрс заўважае: „На шчасьце насельніцтва Францыі пераважна дробна-буржуазнае. Небясьпечны толькі Парыж, Ліён, Гаўр, Марсель і прамысловыя гарады поўначы“. Але-ж Гельдэрсы як і героі яго раману забываюць, што і дробна-буржуазнае насельніцтва і Францыі, і Англіі, і Нямеччыны навучылася таму-сяму. Імпэрыялізм дапамог гэтаму насельніцтву задумацца над сваім далейшым лёсам.

Кніжка Гельдэрса для нас карысна і таму, што яна ў нагляднай форме паказвае, як пад страхам „унутранага“ ворага—рабочага паўстаньня—зьнікаюць супярэчнасьці паміж імпэрыялістычнымі дзяржавамі, адыходзяць на задні плян і выступае адзінства інтарэсаў клясы эксплёататараў супроць эксплёатуемых.

Выходзячы з усяго гэтага мы параім нашаму чытачу кніжку Гельдэрса. У кніжцы Гельдэрса чытач заўважыць і лірычныя адступленьні, лірычныя цёплыя апісаньні ўчынкаў і перажываньняў яго герояў. Рэдакцыя „Красной звезды“ зусім правільна заўважае, што „пры ацэнцы іх ня трэба забываць, што Гельдэрс ня толькі маёр“, лірызм Гельдэрса—гэта лірызм капіталіста. Так яго і ацэнім.

У заключэньне некалькі слоў пра пераклад і выданьне. Пераклад з расійскай мовы і літпраўка зроблены С. Русаковічам і М. Касянковым. Нельга лічыць гэты пераклад здавальняючым і пісьменным. Больш таго. Чытач знойдзе ў ім рад проста такіх недапушчальных вольнасьцяй у дачыненьні да беларускай мовы. Беларуская мова—ёсьць самастойная мова. З перакладу часам выглядае другое, менавіта, што беларуская мова гэта

перакручаная расійская мова. Вядома ўжо, што расійскае слова „орудие" па-беларуску „гармата", перакладчыкам не вядома навошта патрабавалася гэтае слова перакручваць у слова „арудзьдзяў" (стар. 34). Тое самае і са словамі „пулемет". Перакладчыкі перакладаюць „кулямэт", слова „ствол" зусім не перакладаецца. Праўда, гэта не перашкаджае на другіх старонках рабіць і правільныя пераклады. Тое-ж слова „орудие" ў канцы кніжкі перакладаецца „гармата", а словы „пулемет"—„кулямёт". Мы паказалі толькі на тры прыклады, але, аднак, ня толькі гэтымі прыкладамі абмяжоўваецца неахайнасьць перакладу.

Выдана кніжка недапушчальна неахайна. Патрабавалася цэлая старонка для „заўважаных памылак друку" а заўважана толькі 41 памылка. Калі-ж узяць „не заўважаныя", дык прышлося-б друкаваць дадатак па меншай меры на чвэртку аркуша. Гэта ня жарт, а суровая праўда друкарскай работы. Савецкі чытач мае права патрабаваць ад выдавецтва і друкарні каб яны давалі пісьменна і акуратна зробленую кніжку. На жаль, гэтага нельга сказаць пра выданьне кніжкі Гельдэрса.

**Ад рэдакцыі:** Даючы агульны агляд кніжкі Гельдэрса, рэдакцыя ў бліжэйшых нумарох часопісу дасьць больш падрабязны і крытычны яе разгляд.

